# К КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 29 (291) 26 ліпеня — 1 жніўня 1997 г. КОШТ 2000 РУБЛЁЎ

ДЫСКУТУЕ•ПРЭЗЕНТУЕ•РАЗВАЖАЕ





**Сёння адкрыўся II З'езд беларусаў свету**

## БЕЗАБАРОННАСЦЬ?!

**Чалавек і стыхія... Ці абаронены мы ад прыродных катаклізмаў? Хто павінен папярэджваць нас пра небяспеку? Хто, урэшце, павінен ратаваць нас?**

**Стыхія ў Еўропе сёлета разгулялася не на жартачкі. Ураган на Украіне і Беларусі, паводка ў Польшчы, Чэхіі, Славакіі, а цяпер ужо і ў Германіі прымусілі нас звярнуцца да тэмы, якая хвалюе чалавецтва.**

*(Матэрыялы чытайце на стар. 1—3.)*

## СІТУАЦЫІ МІНІСТЭРСТВА ПА НАДЗВЫЧАЙНЫХ СІТУАЦЫЯХ

*Іван КЕНІК: Жанаты, двое дзяцей, чацвёра ўнукаў ("Гэта і ёсць маё багацце", — гаворыць ён, паказваючы фатаграфію ўнукаў).*

*Кар'ера: будаўнічы інстытут — ад майстра да ўпраўляючага будаўнічага трэста.*

*1987 — 1990 — мэр горада Мозыра.*

*Адзін з самых "непаслухмяных" дэпутатаў Вярхоўнага Савета 1985 — 1990 гг.*

*Быў віцэ-прэм'ерам і адначасова старшынёй Дзяржкамітэта па Чарнобылю.*

*Сёння — міністр па надзвычайных сітуацыях. Захапляецца гісторыяй.*

**— Іван Альбінавіч, дазвольце для разгону задаць першае несур'ёзнае пытанне: як становяцца віцэ-прэм'ерам, старшынёй камітэта і міністрам?**

— Пра першыя дзве пасады, калі "праўду-матку", дык гэта было для мяне поўнай нечаканасцю. Працаваў мэрам Мазыра. Працы, як вы разумееце, хапала. Раздаецца тэлефонны званок: "Дзень добры, гаворыць Кебіч. Згодзен са мной працаваць?" — "Так". І ён паклаў слухаўку. Кім працаваць? Калі працаваць?.. Праз тры дні я ўжо быў віцэ-прэм'ерам і старшынёй "чарнобыльскага" камітэта. Старшынёй гэтага камітэта і працаваў да апошняга часу. А напярэдадні стварэння Міністэрства па надзвычайных сітуацыях выклікаў мяне Прэзідэнт...

**— Размова была грунтоўная?**

— Размова была такая: "Я прызначаю цябе міністрам. Жадаю поспеху. Ідзі працуй".

**— Сапраўды, усё проста. А цяпер, калі дазволіце, два словы пра нядаўнюю трагедыю — ураган.**

— Пра ўраган што скажаш, ён прайшоў. Цяпер трэба гаварыць пра ліквідацыю яго наступстваў. Гэтая праца была падзелена на тры этапы: да першага ліпеня аднавіць жыллё. Гэта дзевяць тысяч дамоў. Зроблена. Да першага жніўня аднавіць вытворчыя будынкі — іх тры тысячы. Зроблена. І да сёмага лістапада прыбраць лес. Будзе зроблена. Кожны дзень, без выходных працуе дваццаць тысяч чалавек і паўтары тысячы адзінак тэхнікі.

*(Заканчэнне на стар. 2.)*

# СІТУАЦЫІ МІНІСТЭРСТВА ПА НАДЗВЫЧАЙНЫХ СІТУАЦЫЯХ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.)*

**— Якія страты нанесены дзяржаве ўраганам?**

— Адзін трыльён рублёў. Гэта вельмі многа, але гэта толькі грошы, а шэсць чалавечых жыццяў ужо не вярнуць...

**— Хто нам дапамагае?**

— Людзі, арганізацыі, краіны. Гэта і грошы, і матэрыяльная дапамога.

**— Як паводзілі сябе людзі падчас гэтага бедства?**

— Годна. Ёсць прыклады ўражальнага самавалодання і дысцыпліны. У Стаўбцоўскам раёне знаходзіцца дзіцячы лагер мінскага маторнага завода "Церамок" — чатырыста дзяцей. А вакол векавыя дрэвы. Дзеці сабраліся на эстраднай пляцоўцы, калі раздалося жахлівае выццё ўрагану. Дырэктар лагера, Аляксандр Аляксеевіч Гракаў, які не раз да гэтага рэпеціраваў з дзецьмі атраднае пастраенне, загадаў: "Малодшыя атрады, пастроіцца і бягом на паляну. Старэйшыя — пад эстраду!". Дзеці ўсё зрабілі дакладна. І тут наляцеў ураган. Дрэвы ламаліся як запалкі. Страшна падумаць, што магло б здарыцца. Дзіцячыя жыцці былі ўратаваны. Я б гэтага чалавека ўзнагародзіў ордэнам.

**— Іван Альбінавіч, як вы даглядаеце сваю рэспубліканскую гаспадарку?**

— Спачатку трэба было вызначыць, што лічыць маёй гаспадаркай. Прыняты і прымаюцца шэраг законаў і падзаконных актаў, якія рэгламентуюць і "чалавечыя" і "тэхнічныя" аспекты працы нашага міністэрства. Даглядаць за патэнцыйна небяспечнымі аб'ектамі даручана Праматамнагляду. Называецца гэта "прафілактыка і прадухіленне магчымых парушэнняў". У зонах асабліва небяспечных — кругласутачнае дзяжурства. Чарнобыль навучыў.

**— Калі створана міністэрства?**

— 1 студзеня гэтага года.

**— Чым яно займаецца?**

— Пра гэта гаворыць яго назва. Калі расшыфраваць, дык мы займаемся прыроднымі і тэхнагеннымі здарэннямі. Але, у адрозненне ад аналагічнага міністэрства ў Расійскай Федэрацыі, у нас, скажам, няма "сілавых" структур. Мы "пабудаваны" па функцыянальнай прыкмеце, а не па звычнай арганізацыйнай схеме.

Пры Савеце Міністраў краіны ёсць Камісія па надзвычайных сітуацыях, а мы з'яўляемся яе рабочым інструментам.

**— Прабачце, я не зусім разумею, як вы абыходзіцеся без спецатрада выратавальнікаў, верталётаў, сабак, тэхнікі.**

— Мы не такія вялікія, як Расія, і не такія багатыя, каб дазволіць сабе мець вельмі дарагі спецкантынгент, які будзе сядзець і чакаць, калі абваліцца столь. Ды і не так часта яна ў нас абвальваецца. Калі ўзнікае неабходнасць, урад дае мне паўнамоцтвы і я прыцягваю да работ патрэбных людзей і тэхніку ў патрэбнай колькасці ў патрэбным месцы. Напэўна, каб вашым чытачам было зразумела, што такое наша міністэрства, я пералічу яго ўпраўленні.

**— Дарэчы, колькі ў міністэрстве працуе чалавек?**

— Дзевяноста. Такім чынам — упраўленні: асноўнае — па надзвычайных сітуацыях; далей — па рэабілітацыі забруджаных тэрыторый; медыцынскага абслугоўвання, гуманітарнай дапамогі і аздараўлення пацярпелага насельніцтва; сацыяльнай абароны пацярпелых і прававой работы; капітальнага будаўніцтва; навукі, міжнародных зносінаў і інфармацыі.

**— Вы маеце рацыю, гэты пералік многае раскрывае. Але, як кажуць, асобныя пытанні для мяне сталі яшчэ больш незразумелымі: якія адносіны мае навука да надзвычайных сітуацый, калі не ўлічваць іх прадбачання?**

— Аб прадбачанні мы яшчэ пагаворым, а аб навуцы і, дарэчы, аб культуры магу паведаміць, што ў складзе "навуковага" ўпраўлення працуе Дзяржаўная гісторыка-культурная экспедыцыя, якую ўзначальвае Генадзь Шары. Тысячы ўратаваных прадметаў, якія маюць гістарычнае і культурнае значэнне, перадала гэтая Экспедыцыя Музею старажытнабеларускай культуры нашай Акадэміі навук.

*(Пасля размовы з міністрам я зайшоў у "культурнае" ўпраўленне і галоўны спецыяліст Уладзіслаў Слабадзін, паказаў мне дакументы Экспедыцыі. Я зрабіў кароткія запісы справаздач: "Падрыхтаваны слоўнік на літары ад Т да Я...", "... Перадана ў музей 258 прадметаў этнаграфіі і народнай творчасці", "Складзены рэестр помнікаў Слаўгарадскага і Хойніцкага раёнаў", "Выдадзена даследаванне "Археалагічныя помнікі Клімавіцкага раёна", "Даследаваны стан помнікаў воінам, якія загінулі падчас вайны", "Зроблены відэасюжэт "Помнікі Брагінскага раёна", "Выяўлены і даследаваны 153 археалагічныя помнікі ў Краснапольскім і Чэрыкаўскім раёнах", "Выкананы праект схематычных абмерных чарцяжоў капліцы ў вёсцы Гаўрыленка Касцюковіцкага раёна"...*

*Не чакаў я ўбачыць такія справаздачы і такі ракурс дзейнасці ў гэтым міністэрстве.*

*Але вярнуся да размовы з міністрам.)*

**— А цяпер колькі словаў, Іван Альбінавіч, аб прадбачанні, як вы абяцалі.**

— Гідраметэаслужба са спазненнем папярэдзіла аб урагане, а павінна была зрабіць гэта своечасова. Мы змаглі б пазбегнуць многіх стратаў. Пытанне гэтае будзе разбірацца ў самай высокай інстанцыі — у Камісіі Савета Міністраў.

**— Міністэрства па надзвычайных сітуацыях само трапляе ў надзвычайныя сітуацыі?**

— Яно жыве ўнутры гэтых сітуацый.

**— Якія праблемы, як кажуць сёння?**



*Адзін з аб'ектаў клопатаў Міністэрства па надзвычайных сітуацыях — Пакроўская царква ў вёсцы Лазоўка Магілёўскай вобласці.*

— Хацелася б, адказаць, як кажуць сёння: ніякіх праблем. На жаль, яны ёсць, і яны пастаянныя.

Першая, як ва ўсіх: фінансы. Думаю, што тлумачэнняў тут не трэба. І другое: састарэласць абсталявання на тых самых патэнцыйна небяспечных аб'ектах. Яго трэба мяняць. Прывяду прыклад не з нашага жыцця. Насельніцтва Японіі з 1945 па 1965 гады ў сярэднім на сям'ю спажывала мяса два разы на год. Збіралі грошы, адмаўлялі сабе ў элементарным — і мянялі зношанае абсталяванне заводаў і камунікацый. Што такое Японія сёння, гаварыць не даводзіцца.

**— Іван Альбінавіч, вы член урада, вы ведаеце, як жыве сёння "сярэдні" беларус. Як сказаць яму сёння: адмоўся яшчэ ад чаго-небудзь, калі і тое, што ён мае, — гэта так мала.**

— Вы маеце рацыю. Усе маюць рацыю. А адпрацаваўшыя свае нафта- і газаправоды, абсталяванне і камунікацыі на хімзаводах "сядзяць у засадзе" і чакаюць свайго часу. Плаціць прыйдзецца нашмат даражэй, чым толькі грашыма...

**— Вы маеце на ўвазе падобнае да таго, што здарылася ў Омску?**

— Дзякуй Богу, нас гэта пакуль мінае. Абвалы будынкаў здараліся, але без ахвяр. Да слова, пры цару была пасада — наглядчык за будынкамі. Калі яна захавалася б і зараз — здарэння ў Омску не было б.

**— А вы б увайшлі з такой прапановай ва ўрад...**

— Вось-вось, парайце... Мяне і так завуць "разбуральнікам бюджэту". Кожны будынак знаходзіцца на чыімсьці балансе, вось няхай і турбуюцца, і адказваюць.

**— Ці не здаецца вам, што мы маглі б выйсці з крызіснага стану ў праблеме абнаўлення абсталявання пры дапамозе крэдытаў і дзяржаўных пазык?**

— Гэта, без усялякага сумнення, шлях да збяднення нашых унукаў. Дармавы сыр бывае толькі ў мышалоўцы. І ніякі добры дзядзька не вырашыць гэтага пытання. Беларускія праблемы павінны вырашаць беларусы.

**— Калі б я спытаў у вас: чым вы задаволены як міністр па надзвычайных сітуацыях?**

— Кадрамі. І тым, што мы навучылі іх быць у цяжкія хвіліны самастойнымі і вырашаць цяжкавыканальныя задачы. У нашай справе гэта і ёсць прафесіяналізм.

**— Прыклад можна?**

— У верасні мінулага года ў Слуцкім раёне выбухнулі артылерыйскія склады. Сапраўдная вайна... І вось у такіх умовах старшыня выканкама Слуцкага раёна Зянон Ломаць — у суботу! — змог за дзве гадзіны вывезці з небяспечнай зоны тысячу чалавек. Не чакаў загадаў, дапамогі, чужых рашэнняў — сам. Вось такія дзеянні людзей я і лічу галоўным нашым дасягненнем.

**— А чаму ж вы лічыце гэта вашым дасягненнем, калі Ломаць зрабіў гэта сам?**

— А таму, што міністэрства не толькі заахвочвае ініцыятыву работнікаў на месцах, але і пастаянна вучыць іх гэтаму. Фактычна засвоены яшчэ адзін з урокаў Чарнобыля. Калі б у 1986 годзе мясцовыя кіраўнікі былі вольныя ў сваіх дзеяннях — нашмат менш было б бедаў сёння.

**— Іван Альбінавіч, рэдакцыя газеты "Культура" і яе чытачы жадаюць вам і вашым калегам годна і паспяхова выйсці з усіх надзвычайных сітуацый — і цяперашніх, і тых, якія могуць быць. Мы спадзяёмся на вас. Нам усім ад гэтага будзе добра.**

**Навум ЦЫПІС**

*Рэдакцыя выказвае падзяку супрацоўніку міністэрства Валерыю Протчанку за дапамогу ў арганізацыі гэтага інтэрв'ю.*

---

***Хоць у песнях і спяваецца, што "у природы нет плохой погоды" — не-не, а ў думках, бывае, праскочыць папрок у адрас неба: "Эх, зараз бы сонейка!" і наадварот: "Хоць бы які-небудзь вясёленькі дожджык прайшоў". А часам увогуле хаваешся ад раз'юшанага надвор'я, як заяц ад воўка. Дрыжыш, спалоханы, трасешся... Што фарміруе надвор'е? Ад чаго яно залежыць?***

***З вядучым інжынерам аддзела метэаралагічных прагнозаў Галоўнага гідраметцэнтра Беларусі Вольгай Антонаўнай ФЯДОТАВАЙ размаўляе наш карэспандэнт Серж МІНСКЕВІЧ.***

**— Наша Зямля з аднолькавай хуткасцю круціцца вакол сваёй восі і вакол Сонца, заўсёды на пастаяннай адлегласці ад свяціла, але ж надвор'е на нашай планеце зусім не пастаяннае. Адзін год зіма сцюдзёная, другі — не, адно лета сухое, другое — дажджлівае. Чаму гэтак адбываецца?**

— Насамрэч, узнікае гэткае пытанне. Крыніца цяпла, якое паступае на Зямлю, заўсёды адна. Здаецца, сонечная энергія практычна нязменная. Нязменныя форма Зямлі, яе паверхня, паветраная абалонка, рух Зямлі. А надвор'е бывае ўсюды неаднолькавым. І не толькі ў розных сезонах, а і на працягу аднаго дня або гадзіны. Прычын разнастайнасці надвор'я вельмі многа. Па-першае, надзвычайная рухомасць атмасферы, па-другое — працэсы ўнутры Зямлі: яны могуць уплываць на змяненне тэмпературы марскіх плыняў, а тыя, у сваю чаргу, — на стан атмасферы, на клімат. Пераменнасць сонечнай актыўнасці, хоць і невялікая, усё ж дае свой адбітак, асабліва калі трапляе ва ўзаемадзеянне з працэсамі ўнутры Зямлі. А яшчэ мы павінны ўлічваць тое, што адбываецца ў Сусвеце. Наша Сонечная сістэма перамяшчаецца ў космасе, і розныя фактары, безумоўна, уплываюць на нашу планету. Мы проста іх не ведаем.

**— Давайце трошкі звузім тэму нашай размовы. Якія фактары ўплываюць на фарміраванне клімату Беларусі?**

— Клімат Беларусі залежыць ад агульнай цыркуляцыі атмасферы. Над намі ўстанаўліваюцца пэўныя паветраныя плыні. Напрыклад, калі я прыйшла на працу, гэта было каля дваццаці гадоў таму, паветраная маса, у асно-

---

# ПАВОДКА

***Толькі што, у апошнім нумары "Культуры", чытачы пазнаёміліся з узнёслымі ўражаннямі нашага карэспандэнта аб вандроўцы ў заходнюю частку Польшчы, у Познань. А цяпер з гэтых земляў прыходзяць весткі не захопленыя, а жалобныя, хаця паводка толькі троху захапіла Познанскае ваяводства. Але ж ў суседніх нарабіла шмат шкоды.***

*Інфармацыя прэс-службы Польскай амбасады ў Рэспубліцы Беларусь:*

"...Вада заліла дзесятую частку тэрыторыі краіны... У 13 ваяводствах паўднёва-заходняй часткі Польшчы абвешчана трывога... Пад вадой цалкам ці часткова апынуліся дзесяткі гарадоў, сярод якіх Вроцлаў, Аполе, Рацібуж, сотні вёсак. Згодна з неафіцыйнымі звесткамі, на 17 ліпеня колькасць загінуўшых ... складае 46 чалавек, сотні людзей прапалі без вестак... На 1300 км дарог паралізаваны рух, зруйнавана 160 мастоў і пуцеправодаў, пад вадой знаходзіцца 240 тысяч гектараў зямельных угоддзяў... Польскі ўрад абвясціў 18 ліпеня днём нацыянальнай жалобы... Апрача чалавечых ахвяр і вялізных фінансавых стратаў паводка нанесла вялікую шкоду культурнай спадчыне... Толькі дзякуючы самаахвярнасці і мужнасці жыхароў Вроцлава ўдалося ўратаваць старажытную частку горада з вялікай колькасцю гістарычных помнікаў — Тумскі Востраў. Аднак была заліта старая частка горада — Старэ Мяста. Вада трапіла нават у бібліятэку Вроцлаўскага універсітэта, пашкодзіўшы 100 тысяч тамоў, большасць якіх адносіцца да перыядаў Сярэднявечча і Рэнесанса. Некалькі дзён ратаўнічыя службы і жыхары вялі барацьбу за ўратаванне аднаго з найкаштоўнейшых твораў польскага мастацтва — Рацлавіцкай панарамы..."

*З польскай прэсы:*

... "Перажываем жахлівую, несустраканую ў гісторыі зямлі апольскай паводку," — кажа апольскі ваявода. "Эвакуіравана ваяводская рада, гатовыя да выезду са сваіх сядзібаў рэдакцыі мясцовага радыё і газет. Будынкі абкладзены мяшкамі з пяском... Спадзяёмся, што раней пакладзеныя мяшкі з пяском уратуюць нядаўна адрэстаўраваны апольскі Рынак"...

... Нельга дазваніцца да паловы ваяводства, у залітых гарадах працуюць толькі сотавыя тэлефоны... У гарадах, якім пагражае паводка, не хапае хлеба і пітной вады, людзі раскупляюць муку, з'явіліся доўгія чэргі, падскочылі цэны на спажывецкія тавары і часам у магазінах даходзіць да боек...

У Клодзку з'явіліся групы зладзеяў, што абкрадаюць пакінутыя кватэры, затопленыя магазіны і склады...

... Зачынены восем пераходаў на паўднёвай граніцы (са Славакіяй), астатнія працуюць, але праезд да іх цяжкі... Завалы зямлі перакрылі міжнародную дарогу Е-75 з Польшчы праз Браціславу на поўдзень Еўропы на адным з участкаў...На другім дарога заліта на вышыню 25 сантыметраў... Хуткасць цягнікоў на пераходах зменшана да 5 км/г...

... — Як пачала ўзнімацца вада, дзеці паехалі з жонкай да цешчы, а я перанёс больш каштоўныя рэчы — тэлевізар, штось з мэблі — да суседзяў, на другі паверх. Сам выехаў вечарам на пантоне, бо вада была ўжо высока. Хваля выламала сцяну і ўсё вымыла з кватэры. Нават штаны на мне пазычаныя,

# ХАЧУ НАДВОР'Я ПАВОДЛЕ СВАЙГО НАСТРОЮ

ўным, ішла з захаду. Лёгка было разлічыць: куды накіроўваецца цыклон, з якой хуткасцю ён рухаецца, калі будзе над намі, што ён прынясе.

**— А дзе нараджаліся гэтыя цыклоны?**

— Як правіла, у паўночнай Атлантыцы. Гэта так званы Ісландскі мінімум — вобласць паніжанага ціску, цыклоны там і ўзнікаюць. Але ў апошнія гады, і асабліва ў гэтым годзе, у цыркуляцыі атмасферы адбыліся вялікія змены. Сёлета паветраная маса паступала з Міжземнага мора, з поўдня, вельмі вільготная. Таму ўзнікалі гэткія небяспечныя з'явы, як ураган, паводка. Для ўрагана, які нядаўна прайшоўся над Беларуссю і Украінай, стварыліся спрыяльныя яму тэрмадынамічныя ўмовы, бо ўзнікалі вялікія кантрасты тэмпературы. Але гэткія тэмпературныя кантрасты бываюць у нас даволі часта, аднак, каб з'явіўся ўраган, тут ужо патрэбны пэўныя энергетычныя фактары, якія прадбачыць вельмі цяжка. Я думаю, гэтым павінны займацца вучоныя, каб зразумець глыбіню ўсяго працэсу. Хоць тое, што ў гэтым годзе адбываецца штосьці незвычайнае, — заўважна. Чаму нядаўнія паводкі ў Еўропе называюць "паводкамі тысячагоддзя"? Відавочна, таму, што ніхто не памятае падобнага, дый у летапісах такое не сустракалася. А гэта сведчыць пра фенаменальнасць працэсаў бягучага года, пра іх складанасць.

**— А гэта заканамернасць ці выпадковасць, што менавіта сёлета падобнае адбываецца? Напрыклад, на пачатку года над намі пралятала камета Хэйла-Бопа. Каметы з даўніх часоў лічыліся прадказальнікамі бедстваў.**

— Цяжка сказаць, заканамернасць або выпадковасць, што падобнае адбываецца сёлета. Гэта штосьці ад вышэйшага... Але, вядома, гэта і фізіка... Хоць дакладна мы не ведаем. Можна дапусціць, што існуюць пэўныя цыклы змены надвор'я. Магчыма, у 1997 годзе мы ўступаем у новы кліматычны перыяд. Мы бачым, працэс мяняецца, мы разлічваем, спрабуем прагназаваць. Але часта мы бяссільныя, бо, складаючы прагноз надвор'я, нам трэба ўлічваць безліч розных кампанентаў. Мы апрацоўваем інфармацыю, атрымліваем здымкі ад спадарожніка Зямлі некалькі разоў на суткі, але гэта дыскрэтныя даныя. Вось заходнія краіны маюць геастацыянарны спадарожнік, ён заўсёды вісіць у адным пункце над Зямлёй, і яны заўсёды могуць мець патрэбную інфармацыю. А ў нас інфармацыя дыскрэтная: атрымалі раніцай, пасля ў палове дня, атрымаем вечарам.

**— А што, і ў часы Савецкага Саюза мы не мелі спадарожніка, які б сачыў за надвор'ем?**

— Геастацыянарнага не было. Мы спрабавалі задзейнічаць спадарожнік, які вісіць над даўгатой Францыі, але яго "погляд" нашу тэрыторыю амаль не захопліваe. Мы як бы на "абрэзе". Планавалася калісьці запусціць свой спадарожнік, але цяпер ужо не тое эканамічнае становішча. Неабходную інфармацыю мы атрымліваем праз міжнародны абмен. Ёсць сусветная метэаралагічная арганізацыя ў Жэневе.

**— Ці нельга замовіць надвор'е?**

— Гэта зусім неверагодна, але, можа быць, гэта і добра. Аднаму чалавеку захочацца пазагараць, а дачніку патрэбны дождж. Канешне, хацелася б, каб не было экстрэмальных з'яў, каб хоць бы не было разбурэнняў. На жаль, мы бяссільныя. Мы кажам, цывілізаваныя краіны Еўропы, Амерыкі, Азіі дасягнулі фантастычных вынікаў у развіцці навуковых тэхналогій, але і яны нічога не могуць зрабіць з надвор'ем. Зрэшты, гэта і да лепшага, бо калісьці пэўныя асобы ў сакрэтных планах распрацоўвалі метэаралагічныя войны — каб напускаць на пэўныя краіны цыклоны ці засуху. На шчасце, чалавек гэтага не можа.

**— Даўно ходзяць чуткі, што быццам бы чарнобыльскае воблака ішло на Маскву, але спецыяльнымі ракетам яго павярнулі на Беларусь. Ці гэта з галіны фантастыкі?**

— Напэўна, гэта фантастыка. Асобныя кучавыя аблокі можна рассейваць з дапамогай ёдзістага серабра, раскідваючы прэпарат над воблакам. Але і тут узнікаюць пытанні — развілася б гэтая аблачына пасля прымянення прэпарата ў грымотную хмару ці не?

**— Якія праблемы цяпер стаяць перад нашымі сіноптыкамі?**

— Праблем вельмі многа. Хоць мы маем даволі вялікі аб'ём інфармацыі, але збіраць яе становіцца ўсё цяжэй. Напрыклад, радыёзонд, які мы запускаем, каб ведаць пра рух паветраных плыняў у верхніх слаях атмасферы, запускаўся чатыры разы на суткі; апошнім часам ён запускаўся толькі раз у суткі, а якраз з сённяшняга дня няма ўвогуле запуску радыёзонда, таму што апарат, які праводзіць вымярэнні, шмат каштуе. Гэта фінансавыя праблемы... Але існуюць і навуковыя цяжкавырашальныя праблемы. Ёсць лічбавы метад прагнозу надвор'я. Вучоныя з дапамогай ураўненняў апісваюць атмасферныя працэсы, але сістэма ўраўненняў незамкнутая, і шмат велічынь немагчыма вылічыць, таму іх спрашчаюць. У выніку на выхадзе ўзнікаюць памылкі. Сення лічбавыя прагнозы надвор'я апраўдваюцца на трыпяць сутак. На чым большую колькасць сутак робіцца прагноз, тым больш у ім недакладнасцяў. Самае вялікае дасягненне — гэта зроблены прагноз на дванаццаць сутак, але мы, на жаль, не маем гэткіх магутных камп'ютэраў. Па міжнародным абмене мы атрымліваем інфармацыю аб прагнозе надвор'я дзесьці да трох сутак.

**— Значыць, вас трэба "пераўзброіць" тэхнічна?**

— Не толькі пераўзброіць і не толькі нас, трэба, каб уся сусветная навука паднялася на пэўны ўзровень. Таму што прагнозы не спраўджваюцца не толькі ў нас. А сёлета тым больш — вельмі складаныя атмасферныя працэсы. Быў перыяд, калі прагнозы спраўджваліся вельмі добра, мы атрымлівалі падзякі. Цяпер чакаем, калі пройдзе "чорная паласа".

**— Цікава, экстрасенсы да вас звяртаюцца, яны вам прапануюць свае паслугі? Ёсць людзі, якія кажуць, што адчуваюць трынаццатым пачуццём, спінай, мозгам, што насоўваецца бура.**

— Асабліва з імі мы не кантактуем. Гэткія людзі звычайна адчуваюць штосьці такое максімум за некалькі гадзін. Раней яны нам тэлефанавалі, а цяпер перасталі.

**— Дзякуй за размову. Спадзяёмся, што надвор'е ў нас будзе адпаведнае нашаму настрою.**

— На шчасце, прырода ёсць прырода, яна жыве па сваіх законах. Мы проста не можам уявіць, што магло б адбыцца, калі б мы пачалі на яе ўздзейнічаць. Так што мы проста назіраем і спрабуем вызначыць, што прырода нам рыхтуе.

**— Поспехаў вам у вашай складанай працы!**



# ВАДА ЗАЛІЛА СЛАВАКІЮ

***Ісідор ПАЧЫАТЭК, Генеральны консул Славацкай Рэспублікі ў Мінску:***

"Буйныя паводкі ў Цэнтральнай Еўропе не абышлі бокам і Славацкую Рэспубліку. Аднак можна казаць, што цяперашняя паводка ў заходняй і паўночна-заходняй частках не дасягнула памераў экалагічнай катастрофы, як гэта было ў 1965 годзе ў Дунайскай нізіне, калі вада цалкам знесла з паверхні зямлі некалькі вёсак.

Да гэтага часу застаецца пагроза прарыву берагавых дамбаў, аднак цяпер крытычнае становішча стабілізавалася, хоць выратавальныя службы паўсюдна знаходзяцца ў стане гатоўнасці, падрыхтаваны і тэхнічныя сродкі. Гэта канкрэтна датычыцца заходняй граніцы Славакіі з Чэшскай Рэспублікай на рацэ Марава, у раёнах Скаліца і Сеніца. Там вада затапіла вялікія плошчы палёў, вёсак і гарадоў. Паводка разбурыла дарогі, газаправоды і лініі электраперадач, на паўночна-заходнім участку граніцы ў некалькіх месцах была цалкам разбурана чыгунка...

Паводка ва Усходняй Славакіі захапіла тысячы гектараў палёў пасля таго, як расхадзілася рака Ціхі Паток (як бы насуперак сваёй назве). Агульныя страты ад стыхіі ў Славакіі склалі каля двух з паловай мільярдаў крон (1долар ЗША = 31 славацкая крона). Урад Славакіі прыняў рашэнне дапамагчы ўсім пацярпелым і пачаць аднаўленне дарог, мастоў і дамбаў, як толькі гэта будзе магчыма. Неабходна адзначыць, што катастрофу на поўдні Славакіі ўдалося прадухіліць дзякуючы буйнейшай плаціне на рацэ Дунай, на поўдзень ад Браціславы (Габчыкава)."

— расказвае Ян Мірга, адзін з жыхароў Клодзка...

...Дзве хвалі прайшлі па Одры і Віcле на поўнач, адна з іх мела вышыню сем з паловай метраў над узроўнем грунту... Варшаўскія водныя службы, пажарная ахова і паліцыя прыведзены ў стан гатоўнасці, за ракой увесь час вядзецца назіранне. Супрацьпаводкавыя камітэты ўсіх ваяводстваў, што размяшчаюцца над Віслай і Одрай, сабраліся, каб азнаёміцца з характарам вадзяных валоў і інструкцыямі па далейшай дзейнасці...

...Старшыня крызіснага камітэта віцэ-міністр унутраных спраў Збігнеў Саботка загадаў войску, паліцыі і пажарнай ахове падаць праграмы далучэння да ліквідацыі пашкоджанняў, выкліканых паводкай. Войска дапамажа ў адбудове найгоршых мастоў, адкрые пункты рамонту сельскагаспадарчых прылад, акажа таксама медычную дапамогу...

Міністэрства здароўя прыгатавала тры лістоўкі — інструкцыі аб тым, як сябе паводзіць на плошчах, закранутых паводкай, каб не нанесці шкоды здароўю. У некаторых месцах ваяводскія санітарныя інспектары прынялі рашэнне аб прывіўках супраць брушнога тыфу... Адной з важнейшых праблем, апрача дапамогі людзям, стала таксама неабходнасць пазбаўлення ад здохлых жывёлін — коней, кароў, свіней. Санітарныя службы вымушаны наймаць спецыяльныя фірмы для вывазу падлы...

Прэзідэнт Аляксандр Квасьнеўскі адхіліў прапанову аб увядзенні надзвычайнага становішча на плошчах, занятых паводкай. "Гэта было б абавязкова звязана з адняценнем парламенцкіх выбараў і з абмежаваннем правоў грамадзян". Прэзідыум Сейма збірацца правесці надзвычайнае пасяджэнне. Гаворка не ідзе пра тое, каб каго-небудзь у чым-небудзь абвінавачваць, толькі пра тое, каб даведацца, як дайшло да такіх вялікіх страт і што належыць зрабіць, каб падобная сітуацыя не паўтарылася...

Набірае моцы акцыя збірання сродкаў і дароў па ўсёй краіне для пацярпелых ад паводкі. Збіраюць Польскі Чырвоны Крыж, Карытас — касцёльная арганізацыя, Монар — грамадская арганізацыя супраць наркаманіі, харцэры, Польскае тэлебачанне, камітэты грамадскай дапамогі. Пералічваюць грошы камітэты самакіравання, ваяводы, банкі, прадпрыемствы. Фабрыкі збіраюцца дасылаць уласныя вырабы. Польская пошта і большасць банкаў не бяруць з дарыцеляў плату за перасылку, міністр фінансаў абяцаў, што падараваныя сродкі будуць вызвалены ад падаткаў. Міністэрства працы аб'явіла, што перадасць на дапамогу пацярпелым ад паводкі 300 мільёнаў злотых з фондаў, прызначаных на дапамогу беспрацоўным. Гэта стала магчымым дзякуючы таму, што колькасць беспрацоўных аказалася на сто тысяч меншая, чым меркавалася пры стварэнні бюджэту гэтага года...

Пра 100 тысяч долараў беззваротнай дапамогі абвясціў ад імя ўрада ЗША прэзідэнт Біл Клінтан (які, дарэчы, наведаў Польшчу 10 ліпеня). Ён таксама абяцаў магчымасць далейшай дапамогі ў тых памерах, у якіх будзе патрэба...

**Пераклаў і падрыхтаваў да друку Ігар КЛОКАЎ**

***Выкарыстаны матэрыялы і фотаздымкі з газет "Жэчпаспаліта" і "Газэта выборча".***



№ 29 26 ліпеня — 1 жніўня 1997 г.



# НОВАЯ СТРАТЭГІЯ

**Тэма гэтага матэрыялу ўзнікла з маленькай інфармацыі: у цэнтры горада Мінска, за Чырвоным касцёлам, ідзе рэстаўрацыя будынка, у якім будзе створаны Музей гісторыі беларускага кіно. Сапраўды, неабходнасць стварэння такога музея наспела даўно: гэта вельмі цікава — проста пазнаёміцца з гісторыяй айчыннага кінематографа, тым больш што знаёміцца ёсць з чым. Былы міністр культуры — Яўген Вайтовіч і цяперашні — Аляксандр Сасноўскі не дазволілі пагубіць гэты будынак, які быў вельмі прыцягальным для рознага кшталту прадпрымальнікаў.**

**Зацікавіўшыся такой інфармацыяй, я даведаўся, што Міністэрства культуры ў апошні час актывізавала будаўнічую дзейнасць. З чым гэта звязана? З гэтым пытаннем я звярнуўся да намесніка міністра культуры Юрыя СТРАЛЬЧОНКА.**



*Міністр культуры Аляксандр Сасноўскі і намеснік старшыні Мінскага гарвыканкама Уладзімір Белахвостаў на будаўнічай пляцоўцы Музея беларускага кіно.*

— Актывізавалася не толькі будаўнічая дзейнасць Міністэрства культуры, але і дзейнасць у галіне развіцця матэрыяльна-тэхнічнай базы, рэканструкцыі і рэстаўрацыі аб'ектаў гістарычнага значэння. У апошні час эфектыўнасць працы міністэрства ацэньваецца па сітуацыі на эстрадзе, у тэатрах, па культурна-масавых мерапрыемствах. Але пытанне развіцця матэрыяльна-тэхнічнай базы аб'ектаў гістарычнага значэння не менш важнае. Калі ў папярэдні перыяд сродкі, якія мела міністэрства, размяркоўваліся па многіх аб'ектах, дык цяпер у праграме да 2000 года мы засяродзілі сваю ўвагу на нямногіх аб'ектах, якія дазволяць хутка ўбачыць канчатковы вынік. Тут можна прывесці такія прыклады: летась мы скончылі Дом-музей Ванькавіча, завяршылі будаўніцтва Маладзёжнага тэатра эстрады, які ў траўні ўжо пачаў працаваць, і некаторыя іншыя аб'екты. Безумоўна, гэтым мы не абмяжоўваемся. Стан такіх аб'ектаў, як прыбудова да Дзяржаўнага мастацкага музея, прыбудова да творчай майстэрні Акадэміі мастацтваў, Мірскі замак, Музей гісторыі беларускага кіно, у параўнанні з мінулым годам значна палепшыўся. Намаганні, якія прыкладзены і накіраваны на гэтыя аб'екты, дазволяць скончыць працу на іх у бліжэйшай перспектыве.

**— З чым звязана змена стратэгіі Міністэрства культуры ў гэтай галіне, што стала штуршком да гэтага?**

— Тут ёсць і знешнія пытанні, і ўнутраныя. З аднаго боку, яшчэ раз была перагледжана дзейнасць падрадных арганізацый і выяўлена яе нездавальняючая якасць. Прыклад: прыбудова да Дзяржаўнага мастацкага музея. Прапанова аб спыненні дамовы падраду прымусіла падрадчыка больш уважліва паставіцца да гэтага пытання. У выніку засваенне сродкаў ўзрасло з некалькіх сот мільёнаў рублёў летась да шасці мільярдаў на сённяшні дзень. Расце дынаміка працы.

**— Па якіх крытэрыях адбіраюцца аб'екты для "неадкладнай хуткай дапамогі"? У тым жа Нясвіжы, акрамя замка Радзівілаў, ёсць Слуцкая брама, ратуша, кляштар бенедыкцінак, друкарня...**

— Тут ёсць неабходнасць закрануць гэтую тэму ў больш далёкім аспекце. У папярэднія гады ў першую чаргу будаваліся аб'екты сацыяльнага і жыллёвага прызначэння. Іх пералік быў невялікі. Аб'екты культуры знаходзіліся як бы на ўскрайку. Ёсць аб'екты, якія з'яўляюцца нацыянальнымі помнікамі, гонарам нашай краіны, і тут нават не можа быць нейкага адбору. Няма сумнення ў неабходнасці рэканструкцыі Брэсцкай крэпасці, Мірскага і Нясвіжскага замкаў. Акрамя гэтага, ёсць пералік гістарычных аб'ектаў, па якіх вызначаюцца пытанні фінансавыя, тэрміны. Канцэнтрацыя сродкаў дазваляе хутка закончыць адзін аб'ект і перайсці на іншы.

**— А ці не ўзнікне сітуацыя, што пакуль мы займаемся рэканструкцыяй "нацыянальнага гонару", "мястэчковы гонар" знікне?**

— У праграме Камітэта па рэстаўрацыі знаходзіцца 48 аб'ектаў гістарычнага значэння — гэта немалая колькасць. Міністэрства культуры на ўсіх аб'ектах фінансуе толькі тую частку рэканструкцыі, якая звязана з захаваннем іх гістарычнага значэння, — фасад, знешнюю архітэктуру, унутраныя памяшканні. Частка фінансаў ідзе з мясцовага бюджэту. Гэта дазваляе ахапіць большую колькасць аб'ектаў. Астатнія помнікі знаходзяцца пастаянна ў полі зроку Камітэта па рэстаўрацыі. Акрамя ўсяго іншага, ёсць аб'ектыўная сітуацыя — стан эканомікі, які не дазваляе ў поўнай меры ахапіць усе аб'екты культуры.

Побач з гэтым значную заклапочанасць міністэрства выклікаюць аб'екты з вялікай ступенню зношанасці: навучальныя ўстановы, тэатры. Тут назіраецца істотны недахоп сродкаў.

**— Як ідзе прыцягненне ўвагі грамадскасці да праблемы захавання гістарычных помнікаў?**

— Апошнія 2-3 гады сітуацыя паказвае на тое, што, акрамя бюджэтных сродкаў, іншых не было. Але праца ў накірунку прыцягнення сродкаў інвестараў актыўна вядзецца.

**— І з якім настроем вы глядзіце ў будучыню?**

— Я па характару — аптыміст. І тое, як складаецца сітуацыя, усяляе спадзяванні. І хоць аптымізм бывае рознага кшталту, мой аптымізм — рэальны.

**Міхась БАШУРА**

# МЫ СЫХОДЗІМ, А МАСТАЦТВА ЗАСТАЕЦЦА...



Дзіўна, але ў нашай па памерах і па колькасці жыхароў сярэдняй еўрапейскай краіне да апошняга часу былі ўстаноўлены ўсяго толькі чатыры помнікі мастакам: Марку Шагалу ў Віцебску, Іллі Рэпіну ў ягонай сядзібе ў Здраўнёве пад Віцебскам, Вітольду Бялыніцкаму-Бірулю ў Бялынічах, Язэпу Драздовічу ў Мінску. Сёлета да гэтага зусім невялічкага спіска дадалося яшчэ адно імя беларускага мастака — Аркадзя Астаповіча, які стаяў ля вытокаў беларускай графікі.

Летась споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння мастака. У Нацыянальным мастацкім музеі адбылася яго персанальная выстава, быў выдадзены каталог твораў разам з творамі яго сястры — таксама таленавітага мастака — Зінаіды Астаповіч-Бачаровай. У верасні таго ж года на радзіме мастака ў вёсцы Навасёлкі, у школе, дзе працаваў настаўнікам Аркадзь Астаповіч, была ўстаноўлена дошка, якую выканаў малады скульптар Павал Вайніцкі, студэнт Беларускай акадэміі мастацтваў, вучань Анатоля Арцімовіча. І вось цяпер, 11 ліпеня, у Мінску, завяршаючы ўрачыстасці, прысвечаныя 100-гадоваму юбілею мастака, у будынку Упраўлення народнай адукацыі, дзе ў 30-я — 40-я гады была размешчана школа, у якой настаўнічаў Аркадзь Астаповіч, адкрыўся помнік — бюст, таксама выкананы Паўлам Вайніцкім.

На адкрыцці прысутнічалі сваякі Аркадзя Астаповіча, яго вучні, прадстаўнікі Міністэрства культуры, Упраўлення народнай адукацыі, Мастацкага музея, Акадэміі мастацтваў. Шмат цёплых слоў было прамоўлена пра сціплага паэтычнага чалавека, якім быў Аркадзь Астаповіч, пра яго пранікнёна-лірычную творчасць.

— Пра Астаповіча ў асноўным успамінаюць як пра выдатнага мастака, але трэба таксама памятаць, што ў яго быў вялікі педагагічны талент. Большую частку свайго не вельмі доўгага жыцця ён аддаў школе, дзецям,— адзначыў былы яго вучань, цяперашні старшыня Беларускага педагагічнага таварыства Дзмітрый Зубко.

Прамоўцамі была выказана вялікая падзяка і даследчыкам творчасці Аркадзя Астаповіча — супрацоўніцы Мастацкага музея Надзеі Усавай і выкладчыцы Беларускага дзяржаўнага універсітэта, унучцы Зінаіды Астаповіч-Бачаровай Алене Смірновай. Без іх самаадданай працы гэтай падзеі проста не было б.

І, безумоўна, словы ўдзячнасці былі выказаны аўтару бюста Паўлу Вайніцкаму, бо хоць заказчыкам і выступіла Міністэрства культуры, але ўсе творы — мемарыяльная дошка ў вёсцы Навасёлкі і бюст — былі выкананы дабрачынна.

— Аркадзь Астаповіч жыў у вельмі складаны перыяд нашай гісторыі. Нарадзіўся ён у 1886 годзе, а загінуў у першыя месяцы Вялікай Айчыннай вайны. Ён ваяваў у Першую сусветную вайну, быў у Чырвонай Арміі падчас Грамадзянскай вайны, потым настаўнічаў у 20-я гады адраджэння і страшэнныя 30-я, — кажа Павал Вайніцкі.— Вельмі цяжка было адлюстраваць пэўную дваістасць яго як мастака. З аднаго боку, ён тонкі лірык, а з другога — час патрабаваў ад яго прапагандысцкай канкрэтыкі. Таму было няпроста знайсці вырашэнне пастаўленай творчай задачы, і, магчыма, тое, як бюст пададзены, дазваляе гледачу зразумець усю складанасць узаемаадносін чалавека з самім сабою і з акаляючым светам.

Насамрэч, разглядаючы бюста даволі арыгінальнае: з дапамогай падсветкі і люстэрка можна адразу бачыць скульптурны партрэт мастака ў профіль і анфас, што дае штуршок для філасофскага ўспрымання мастака і мастацтва, навакольнага свету ўвогуле і ўнутранага духоўнага свету асобы, адмераneeded часу чалавечага жыцця і бясконцай вечнасці. Дзе ісціна? Ці наяве, ці ў адлюстраванні? І лепей не скажаш: мы сыходзім, а мастацтва застаецца...

**Серж МІНСКЕВІЧ**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

***Юбілей***

# ВЫБАР СВЯДОМЫ І КАНЧАТКОВЫ

**27 ліпеня вядомаму вучонаму-фальклярысту Канстанціну КАБАШНІКАВУ спаўняецца 70 гадоў. З ім гутарыць яго калега, знаны даследчык літаратуры Арсень ЛІС.**



*Экспедыцыя ў Стаўбцоўскі раён. Сустрэча з братам Я.Коласа дзядзькам Юзікам (злева).*

**Арсень ЛІС:** Канстанцін Паўлавіч, перш-наперш дазвольце павіншаваць вас з сямідзесяцігоддзем і пажадаць здароўя. Юбілей — добрая нагода пачуць ад вас, старэйшага нашага фальклярыста, адказ на некаторыя пытанні, звязаныя з вашай навуковай працай. Як вы ацэньваеце традыцыйную беларускую культуру ў кантэксце нацыянальнай і шырэй — славянскіх культур?

**Канстанцін КАБАШНІКАЎ:** Дзякуй за віншаванне і добрыя пажаданні. За сорак пяць гадоў даследавання фальклору я пераканаўся, што самым каштоўным духоўным набыткам кожнага народа з'яўляецца яго традыцыйная культура.

Значная колькасць людзей і сёння дакранаецца да скарбаў традыцыйнай народнай культуры ў выніку натуральнага бытавання аўтэнтычнага фальклору ў многіх рэгіёнах рэспублікі. Дарэчы, адносна добрую ў параўнанні з многімі іншымі краінамі захаванасць традыцыйнай народнай культуры можна лічыць істотнай асаблівасцю сучаснага стану духоўнай культуры Беларусі. І калі ў ноч на Івана Купалу з крутых высокіх берагоў Бярэзіны, Палаты і многіх іншых беларускіх рэк і рэчак людзі бачаць дзесяткі палаючых далёкіх і блізкіх вогнішчаў, узнікае пачуццё далучанасці да сваёй мінуўшчыны. Кансалідуючы пачатак, эстэтычная дасканаласць, глыбокі сэнс, заснаваны на жыццёвым вопыце шматлікіх пакаленняў, і многія іншыя выдатныя якасці надаюць традыцыйнай культуры асаблівае значэнне ў гісторыі этнасу. Яна — важнейшая крыніца нацыянальнага адраджэння.

**А.Л.:** Вы добра паказалі значэнне традыцыйнай

# ВАНДРАВАННЕ ПРАЗ 600 ГАДОЎ

Сярод розных сёлетніх юбілеяў нельга абысці ўвагай яшчэ адну дату ў беларускай гісторыі — 600-годдзе пасялення татар на землях Вялікага княства Літоўскага. Так, менавіта ў 1397 годзе, пасля паходу Вітаўта на Дон і ў Крым, з'явіліся на нашай зямлі татары. Але ўжо не як ворагі, але — саюзнікі. Гісторыя супярэчлівая, але для нашчадкаў тых татар менавіта Вялікае Княства, а пасля Рэч Паспалітая, сталася Радзімай. Натуральна, што праз нейкі час з'явіліся на беларускіх землях і мячэці.



*Мячэць у Навагрудку.*

Сімвалічна, што мерапрыемствы пад назвай "Караван-Байрам" (у перакладзе — вандроўнае свята) з нагоды гэтай даты і пачаліся сёлета 11 ліпеня адкрыццём ў Навагрудку мячэці. Гэтая мячэць, пабудаваная 201 год таму, пасля Другой сусветнай вайны выкарыстоўвалася як жылы дом, але некалькі гадоў назад была перададзена вернікам-мусульманам, чыімі высілкамі і была аднoўлена. Адзін навагрудскі татарын расказаў мне, як нейкі заможны мусульманін з Блізкага Усходу, што гасцяваў у Навагрудку, ахвяраваў на аднаўленне мячэці дзве з паловай тысячы долараў. А ўвогуле, грошы прыходзілі і з Беларусі, і з-за яе межаў.

Пасля нядоўгай "афіцыйнай" часткі, у якой узялі ўдзел прадстаўнікі ўлады, дыпламаты Польшчы і Ірана, госці з Беларусі і замежжа, мусульманскія святары і ксёндз навагрудскага касцёла, пачалося першае ў аднoўленай мячэці набажэнства, якое было вельмі працяглае: адкрылася мячэць і набліжаўся Дзень нараджэння прарока Мухамеда.



*Татарскія коннікі ў шалёным намёце.*

Але "байрам" — гэта свята, яно і вылілася на вуліцы першай сталіцы Вялікага Княства і прайшло на Замкавай гары, пад мурамі, што памятаюць прадзедаў цяперашніх татар. Перад гледачамі выступіў фальклорны крымскататарскі ансамбль "Крым" з Сімферопаля. Прысутныя змаглі ўбачыць і татарскія забавы, што зазвычай ладзяцца падчас святаў, — гульні джыгітаў на конях, і паўдзельнічаць у спаборніцтвах па стральбе з лука, дужаннях.



*Ля старажытных муроў выступае ансамбль "Крым".*

Праз дзень вандроўнае свята перамясцілася ў Іўе (дзе жыве блізу 800 татар і ёсць, яшчэ нядаўна адзіная на Беларусі, мячэць) і далей — у Смілавічы.

**Андрэй ВАШКЕВІЧ**
**Фота аўтара.**

# ГОСЦЬ З ТАЙВАНЯ

Працягваецца выстава вядомага тайваньскага мастака Хуанг-Куанг Нана ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Азіяцкія мастакі — рэдкія госці ў нашай краіне. Хуанг-Куанг Нан — усяго толькі другі тайваньскі мастак, работы якога будуць прадстаўлены нашым гледачам. Ён працуе ў даволі арыгінальным стылі, дзе спалучаюцца традыцыйны кітайскі жывапіс і сучаснае дэкаратыўнае мастацтва. Можна дадаць, што Хуанг-Куанг Нан — не толькі таленавіты мастак, але і мастацтвазнаўца, ён з'яўляецца дырэктарам Нацыянальнага музея гісторыі Тайпея. Выстава вельмі своеасаблівая, і таму той, хто зацікаўлены і хоць трошкі разумее мастацтва Азіі, атрымае сапраўдную асалоду ад прагляду гэтай экспазіцыі.

**Ірына АНТАНОВІЧ**




# У ТВОРАЎ — ДОЎГІ ВЕК

Больш за год прайшло з таго часу, як пайшоў ад нас вядомы беларускі пісьменнік Іван Чыгрынаў. Творчасць яго адлюстроўвае жыццё, памкненні і душу беларускага народа — ён па праву насіў званне народнага. Яго раманы "Плач перапёлкі", "Апраўданне крыві", "Свае і чужыя" — значны ўнёсак ў беларускую культуру. 11 ліпеня ў Мінску па вуліцы Пуліхава адбылося ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнай шыльды на доме, дзе жыў Іван Чыгрынаў. Скульптурны партрэт пісьменніка на шыльдзе выканаў скульптар Генадзь Буралкін і архітэктар Яўген Кавалеўскі. На адкрыцці выступілі старшыня камісіі па захаванню літаратурнай спадчыны пісьменніка Алесь Пісьмянкоў, старшыня Фонду культуры Уладзімір Гілеп, вядомы крытык Уладзімір Юрэвіч і іншыя. Як зазначылі выступоўцы, "творам Івана Чыгрынава наканаваны доўгі век, бо герой яго раманаў — народ".

**Алена РЫГОРАВА**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# ЛІТАРАТУРНЫ САЛОН ПАД АДКРЫТЫМ НЕБАМ

Літаратурныя чытанні, што ладзяцца кожныя два тыдні ў скверы Янкі Купалы, збіраюць заўсёды шмат народу. Тут можна паслухаць не толькі вядомых мэтраў пяра, але і тых, хто робіць першыя крокі ў літаратуры. У скверы Янкі Купалы ўжо паспелі выступіць многія, да прыкладу — Сяргей Вераціла, Андрэй Латушкін, Лявон Баршчэўскі, а таксама сябры літаратурнага руху "Бум-Бам-Літ" — Віктар Жыбуль, Сяргей Патаранскі, Дон Хуан Мікалаўскі, Альгерд Бахарэвіч, Алесь Туровіч, Ілля Сін. Звычайна прадстаўляе выступоўцаў Генадзь Бураўкін. Даўно чакалі людзі гэткага вулічнага салона. Бо прыемна паслухаць вершы з вуснаў аўтара. Нездарма ж мастакі заўсёды імкнуцца прысутнічаць на адкрыцці ўласных выстаў. Адным словам, мара літаратараў аб вулічным творчым салоне спраўдзілася. А ініцыятарамі стварэння гэткага салона сталі Таварыства беларускай мовы і Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная грамада). Дзякуючы музею Янкі Купалы выступленні тэхнічна забяспечаны. Што самае дзіўнае, традыцыі вулічных салонаў у Беларусі няма, па сутнасці, гэткая традыцыя ствараецца цяпер.

**Зміцер ВОЛКАЎ**

# Аляксей Пятровіч Кагадзееў

Беларускае музычнае мастацтва панесла незаменную страту — 23 ліпеня 1997 года на 72-м годзе жыцця пасля доўгай і цяжкай хваробы пайшоў з жыцця выдатны хормайстар, народны артыст Беларусі Аляксей Пятровіч Кагадзееў.

У 1959 годзе ён прыйшоў ў Тэатр оперы адразу пасля заканчэння Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі і аспірантуры пры Ленінградскай дзяржаўнай кансерваторыі. Ужо праз год стаў галоўным хормайстрам Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі. Гэты адказны пост А.П.Кагадзееў займаў 33 гады. Цяперашнюю нязменна высокую рэпутацыю опернага хору ў многім можна лічыць вынікам яго самааданай працы, справай яго жыцця.

У гісторыі Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі імя Аляксея Пятровіча Кагадзеева заўсёды будзе спалучацца з назвамі такіх выдатных спектакляў, як "Арэстэя", "Хаваншчына", "Барыс Гадуноў", "Залаты пеўнік", "Вайна і мір", "Лаэнгрын", "Карміна Бурана", "Джардана Бруна", "Новая зямля". Апошняй яго вялікай работай стаў оперны спектакль "Князь Наваградскі", дзе хору адведзена надзвычай важная роля. Неаднаразова А.П.Кагадзееў выступаў як оперна-сімфанічны дырыжор.

У гэтыя дні мастацкая грамадскасць рэспублікі, калектыў Творчага аб'яднання "Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь" развітваюцца з выдатным музыкантам. Яго творчасць — гэта яркая старонка ў нашай музычнай культуры. Яго спадчына — гэта яго вучні і артысты, якія ніколі не забудуць урокі Майстра.

**А.Сасноўскі, У.Рылатка, М.Яроменка, І.Лучанок, В.Елізар'еў, В.Роўда, А.Саўчанка, Э.Пелагейчанка, М.Дрынеўскі, В.Чарнабаеў, Я.Пятроў, А.Анісімаў, С.Картэс, І.Мацюхоў, Л.Яфімава, Н.Ламановіч.**

---

народнай культуры ў гісторыі этнічных супольнасцей. А як можна ацаніць вартасці такой яе неад'емнай часткі, як фальклор?

**К.К.:** Багацце беларускай народнай паэзіі, яе мастацкая дасканаласць, добрая захаванасць адзначаліся многімі вядомымі фалькларыстамі мінулага і сучаснасці. Вельмі высока ацаніў беларускія казкі даследчык казачнага эпасу славян С.В.Саўчанка, які сцвярджаў, што "па жывасці і прыгажосці апавядання беларускія казкі не маюць сабе роўных". Гэту думку падзялілі многія яго паслядоўнікі.

Сёння, калі мы маем перад сабой ужо 44 тамы шматтомнага выдання беларускага фальклору, дзе прадстаўлены і казкі, і песні, і легенды, і паданні, і прыказкі, і загадкі, і замовы, і іншыя жанравыя разнавіднасці, маштабнасць і значнасць беларускай народнай паэзіі як з'явы нацыянальнай, славянскай і сусветнай культуры становяцца яшчэ больш відавочныя. Такімі набыткамі можна і трэба ганарыцца.

**А.Л.:** Чым быў прадвызначаны ваш прыход у навуку аб фальклоры? Што прыхінула да духоўных каштоўнасцей народа?

**К.К.:** Свядомы і канчатковы выбар быў зроблены тады, калі я заканчваў інстытут і паступаў у аспірантуру. Але, відаць, пэўны ўплыў зрабілі і асаблівасці быту нашай сям'і і бліжэйшай радні, дзе захоўваліся многія традыцыі — пераапрананне на Каляды, кліканне марозу, сямейныя спевы.

Пасля заканчэння Гомельскага педінстытута ў 1951 годзе, вытрымаўшы конкурс, быў прыняты ў аспірантуру на кафедру фальклору Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта, у той час бадай што адзіную кафедру гэтага профілю ў ВНУ былога Саюза.

**А.Л.:** Як фарміраваўся той навуковы напрамак, які стаў галоўным ва ўзначаленым вамі аддзеле славістыкі?

**К.К.:** Першыя гады свайго існавання створаны ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору сектар фальклору займаўся амаль выключна надзённымі праблемамі беларускага фальклору. Гэта і праблемы беларускага эпасу, і фальклору Вялікай Айчыннай вайны, і абагульняючая праца "Беларуская народная вуснапаэтычная творчасць. Гісторыка-тэарэтычнае даследаванне" (1967), нарэшце, падрыхтоўка і выданне шматтомнага Зводу беларускага фальклору. Але ў гэты ж час у славянскай і сусветнай навуцы ўсё мацней заяўляла пра сябе параўнальнае вывучэнне фальклору, якое вялося з розных метадалагічных пазіцый. Было адроджана прыпыненае вайной рэгулярнае — кожныя 5 год — правядзенне з'ездаў славістаў, створана Міжнародная асацыяцыя па вывучэнню і распаўсюджанню славянскіх культур. Усё гэта падштурхнула і беларускіх фалькларыстаў да ўзнаўлення параўнальнага вывучэння, якое бярэ пачатак яшчэ ў дарэвалюцыйнай фалькларыстыцы.

**А.Л.:** Што яшчэ зроблена ў гэтым напрамку на сённяшні дзень?

**К.К.:** У аддзеле ўласнымі сіламі даследуюцца ўзаемасувязі беларускага фальклору з творчасцю іншых славянскіх народаў на ўзроўні асобных жанраў, іх сістэмы вобразаў, паэтычных сродкаў і г.д., высвятляецца характар выяўленых паралелей, адны з якіх характарызуюцца як гісторыка-генетычныя, другія — гісторыка-тыпалагічныя, трэція — кантактныя. У выніку аддзелам выдадзена некалькі манаграфій, сярод якіх "Беларуска-рускія фальклорныя сувязі", "Беларуская народная паэзія веснавога цыкла і славянская фальклорная традыцыя", "Узроўні агульнасці фальклору ўсходніх славян" і іншыя.

**А.Л.:** Раскажыце, калі ласка, пра сённяшні дзень фалькларыстаў-славістаў: праца, кантакты, планы?

**К.К.:** Падрыхтаваны рукапіс манаграфіі "Малыя жанры беларускага фальклору ў славянскім кантэксце", рыхтуюцца даклады на чарговы Міжнародны з'езд славістаў, які адбудзецца ў наступным годзе ў Польшчы. Параўнальныя даследаванні фальклору, якія вядуцца ў аддзеле, дапамагаюць аб'ектыўна ацаніць той уклад, што ўносяць беларусы ў народную паэзію славян, і сведчаць аб глыбокіх гістарычных сувязях славянскіх народаў.

**А.Л.:** Беларуская фалькларыстыка мае рэальныя здабыткі ў вывучэнні і публікацыі помнікаў фальклору. А як прадстаўлены беларускія вучоныя, у прыватнасці вы, у міжнародных навуковых арганізацыях?

**К.К.:** Як я ўжо сказаў, праца беларускіх фалькларыстаў прыхільна ўспрымаецца ў славянскім свеце, таму і пры выбарах у кіруючыя органы розных навуковых арганізацый іх аўтараў не абыходзяць увагай. На апошнім з'ездзе славістаў у Браціславе я быў абраны членам бюро Камісіі па славянскаму фальклору пры Міжнародным камітэце славістаў. Удзельнічаю таксама ў рабоце бюро Міжнароднай арганізацыі па вывучэнню і распаўсюджанню славянскіх культур, якая працуе пад эгідай ЮНЕСКА.

**А.Л.:** Мы ўсё пра навуку і навуку. Хацелася б пачуць колькі слоў пра зусім асабістае. Ведаю, маеце дваіх дзяцей. Яны пераняслі штосьці існае ад бацькі-гуманітарыя? Якія дарогі выбіраюць у жыцці?

**К.К.:** Так, у нас з жонкай двое дарослых дзяцей. На жаль, ні сын, ні дачка не пайшлі следам за бацькам, хоць некаторыя схільнасці да гуманітарных навук, да творчасці ў іх праяўляюцца. Сын, па адукацыі біёлаг, нейкі час працаваў па спецыяльнасці, нават меў навуковыя артыкулы. Але яго зацягнула літаратурная творчасць. Аднойчы прабіўся на старонкі маскоўскай "Литературной газеты", апошнім часам надрукаваў пару невялічкіх кніжак для маленькіх. Кніжкі з "біялагічным" ухілам, аб асаблівасцях паводзін жывёл. Дачка марыла пра археалогію, экспедыцыі, раскопкі. Скончыла гістфак БДУ і апынулася ў школе настаўніцай гісторыі. Ездзіла разам са мной запісваць фальклор, але да гэтай справы не прыкіпела...

№ 29 26 ліпеня — 1 жніўня 1997 г.



# РЭЙТЫНГ — III

Ніколі не мог зразумець і пэўна ўжо ніколі не зразумею, як гэта па дроце бяжыць электрычнасць і чаму людзі размаўляюць на розных мовах? Усе тлумачэнні знаўцаў гэтых праблемаў не падаюцца мне пераканаўчымі, але факт ёсць факт: электрычнасць бяжыць, а чалавецтва размаўляе больш як на дзвюх тысячах моваў. Вось чаму роля перакладу ў кожнай культуры ні з чым не вымерная. Ніводная літаратура ў свеце не можа ўсё стварыць сама. Таму без перакладаў і самая магутная літаратура — мізэрная. А вось пераклад, наадварот, ператварае нават самую кволую нацыянальную літаратуру ў сусветную, бо з дапамогай перакладаў уся сусветная літаратура ўцялесніваецца ў кантэкст нацыянальнай.

Шкада, але даводзіцца канстатаваць, што мы ролю перакладу і перакладчыкаў відавочна недаацэньваем, а падчас і проста робім выляд, што яны не вартыя асаблівай увагі. Між тым ніяк не выпадае казаць, што ў гэтай справе ў нас не ўсё блага. Натуральна, магло быць лепш, багацей, але не станем гнявіць Бога — каб не было толькі горай.

Найвялікімі падзеямі апошняга часу ў перакладніцкай справе мне бачацца пераклады "Уліса" Джойса (Ян Максімюк), "Парфумы" Зюскінда і "Кнігі цара Давыда" Гайма (Васіль Сёмуха). Неўзабаве мы атрымаем чарговы і ці не самы вялікі філалагічны шэдэўр Васіля Сёмухі — кнігу "Сімпліцысімус" (О! Якая асалода чакае там літаратурнага гурмана). Грымельсгаўзену ў XVII стагоддзі варта было б напісаць гэтую геніяльную кнігу адно дзеля таго, каб напрыканцы XX стагоддзя яе пераклаў Васіль Сёмуха.

Ну, а цяпер крыху прыцішым наш пафас і звернемся да апытання пра перакладніцкія здабыткі 1996 года.

**Алесь АРКУШ**
1. Васіль Сёмуха. "Рыцар Глюк", "Дон Жуан" — Эрнст Тэадор Амадэй Гофман ("Крыніца").
2. Лявон Баршчэўскі. "Прысуд" — Франц Кафка ("Крыніца).
3. Алесь Разанаў. "Попельная серада" — Т.С. Эліот ("Крыніца").

**Юрась БАРЫСЕВІЧ**
1. Валерка Булгакаў. "Чым ёсць метафізіка" — Марцін Гайдэгер; "Этас аматара" — Кшыштаф Чыжэўскі ("Фрагменты").
2. Уладзімір Бараніч. Серыя артыкулаў пра "электронную літаратуру" ("Наша Ніва").
3. Андрэй Дынько. "Выкраданне" — Луіджы Пірандэла ("Крыніца").

**Пятро ВАСЮЧЭНКА**
1. Лявон Баршчэўскі. "Прысуд" — Франц Кафка (Зборнік, "Мастацкая літаратура").
2. Васіль Сёмуха. "Кніга цара Давыда" — Штэфан Гайм ("Крыніца").
3. Сяргей Панізнік (Папар). "Сустрэча роднасных сусветаў" (Кніга перакладаў, "Цэнтр ім. Ф.Скарыны").

**Ганна КІСЛІЦЫНА**
1.<З мовы на мову.> Валерка Булгакаў. Пераклады тэкстаў з нямецкай і польскай моваў, якія друкаваліся на працягу года на старонках літаратурна-філасофскага сшытка "ЗНО" ("Культура").
2. <З ідэі на ідэю.> Юрась Барысевіч. Развіццё ідэй Арто і Дэлёза ("ЗНО", "Крыніца").
3. <З часу на час.> Алесь Разанаў. "Дарунак, які ўрэчаісніваюць таінствы" — Язэп Руцкі ("Крыніца").

**Вячаслаў ВАЙТКЕВІЧ**
1. Сяргей Барысевіч. "Філасофскае здумленне" — Жана Эрш ("ЭўроФорум").
2. Ігар Карпікаў, Мікола Рамanoўскі, Андрэй Шымански. "Сучасная культурная антрапалогія" — Майкл Говард ("Тэхналогія").
3. Алесь Лагвінец, Кары Акопаў. "Гісторыя эканамічнай думкі" — Анры Дэні ("Тэхналогія").

**Ева ЛЯВОНАВА**
1. Лявон Баршчэўскі. "Прысуд" — Франц Кафка (Зборнік, "Мастацкая літаратура").
2. Васіль Сёмуха. "Вуліца Ціхая шэсць" — Моніка Марон ("Крыніца").
3. Алесь Разанаў. "Попельная серада" — Т.С. Эліот ("Крыніца").

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**
1. Васіль Сёмуха. "Кніга цара Давыда" — Штэфан Гайм ("Крыніца").
2. Алесь Разанаў. "Попельная серада" — Т.С. Эліот ("Крыніца").
3. Сяргей Барысевіч. "Філасофскае здумленне" — Жана Эрш ("ЭўроФорум").

**Галіна ТВАРАНОВІЧ**
1. Сяргей Барысевіч, Андрэй Дынько. "Што такое параўнальнае літаратуразнаўства?" — П'ер Брунэль, Клод Пішуа, Андрэ-Мішэль Русо ("ЭўроФорум").
2. Васіль Сёмуха. "Вуліца Ціхая шэсць" — Моніка Марон ("Крыніца").
3. Алесь Саламаха. "Дэмакратыя і этычнае жыццё" — Клаэс Г.Рын ("Беларускі гуманітарна-адукацыйны цэнтр).

**Міхась ТЫЧЫНА**
1. Васіль Сёмуха. "Сімпліцысімус" — Грымельсгаўзен ("Крыніца").
2. Лявон Баршчэўскі. "Прысуд" — Франц Кафка (Зборнік, "Мастацкая літаратура").
3. Валерка Булгакаў. Пераклады тэкстаў з нямецкай і польскай моваў, якія друкаваліся на працягу года на старонках літаратурна-філасофскага сшытка "ЗНО" ("Культура").

**Юры СТАНКЕВІЧ**
1. Васіль Сёмуха. "Вуліца Ціхая шэсць" — Моніка Марон ("Крыніца").
2. Алесь Разанаў. "Попельная серада" — Т.С. Эліот ("Крыніца").
3. Лявон Баршчэўскі. "Прысуд" — Франц Кафка (Зборнік, "Мастацкая літаратура").

Падсумуем: на першым месцы (згадваецца пяць разоў) — Лявон Баршчэўскі са зборнікам "Прысуд" (Франц Кафка), на другім — Алесь Разанаў з перакладам "Попельнай серады" (Томас Стэрн Эліот). Складаней з трэцім месцам, бо хоць пераклад Васіля Сёмухі рамана "Вуліца Ціхая шэсць" (Моніка Марон) адзначылі толькі тры эксперты, але відавочна, што Васіль Сёмуха апынуўся на трэцім месцы толькі таму, што эксперты "разгубіліся": якой з працаў перакладчыка аддаць перавагу — перакладу Грымельсгаўзена, Гофмана, Гайма ці Марон?

Звярну ўвагу яшчэ на адзін, як мне падаецца, вельмі істотны момант. Некаторыя эксперты адзначылі пераклады (і перакладчыкаў) культуралагічных і філасофскіх тэкстаў і кнігаў. Нечага такога раней і ўявіць сабе было немагчыма. Але падобнае сёння мне бачыцца досыць заканамерным. Я перакананы, што апошнія год дзесяць самае цікавае ў нас адбывалася не ва ўласна літаратуры, а менавіта ў культуралогіі і філасофіі. А праект Алеся Анціпенкі "Адкрытае грамадства", які ён рэалізоўваў пры фінансавым забеспячэнні Беларускага фонду Сораса (пабачыла свет ужо некалькі дзесяткаў кнігаў па філасофіі, культуралогіі, антрапалогіі і г.д.), увогуле перамяніў культуралагічны ландшафт Беларусі. Застаецца адно пашкадаваць, што ў Беларускага фонду Сораса ўзніклі складанасці і далейшае разгортванне гэтага грандыёзнага праекта перапынілася. Будзем спадзявацца, што ненадоўга.

**P.S.** Лішне падкрэсліваць, што, як і ў папярэдніх двух рэйтынгах, у гэтым таксама сярод згаданых перыядычных выданняў безальтэрнатыўна лідзіруе часопіс "Крыніца". Што да выдавецтваў, то колішні дзяржаўны "монстр" "Мастацкая літаратура" адзначаўся толькі ў звязку з кнігай Франца Кафкі. Цяпер, са скасаваннем у "Мастацкай літаратуры" аддзела перакладной літаратуры, спыніцца і выданне перакладных кніг. Далей застаецца спадзявацца толькі на недзяржаўныя выдавецтвы.




*Я не ўмею расказваць анекдоты, але паспрабую...*

*Недзе напрыканцы зімы з галоўным рэдактарам часопіса "Фрагменты" Ігарам Бабковым сядзелі мы ў сваім пакойчыку (так сабе пакойчык) гатэля "Готліб", што на беразе знакамітага Охрыдскага возера ў Македоніі, і гаварылі не пра вялікага святога Клімена Охрыдскага, помнік якому знаходзіўся непадалёку, і не пра яшчэ больш вялікіх святых, салунскіх братоў Кірылу і Мефодзія, якія бліз гэтых мясцінаў разгортвалі лёсавызначальную для ўсяго славянства дзейнасць, а пра "Бум-Бам-Літ". Гэта трэба было перціся праз усю Еўропу немаведама куды, нагледзецца і наслухацца немаведама чаго, каб напрыканцы дня, забыўшыся на ўсе дзівосы, абмяркоўваць блазнаванні жменькі беларускіх хлопцаў... Ды не проста абмяркоўваць, а спрачацца з такім напалам, быццам на кон, як у пару Кірылы і Мефодзія, зноў пастаўлены лёс калі не ўсёй славяншчыны, то найменш яе сярэдзіннага краю — Беларусі.*

*У той вечар Ігар Бабкоў выступаў у якасці пракурора і ў нечым (у чым — ужо не памятаю) вінавацію "Бум-Бам-Літ", а я быў адвакатам злачынцы. Апошнім часам гэта мая звыклая роля, якая пакрысе пачынае мне надакучваць, але тут ужо нічога не паробіш, бо ўсе мы палоннікі тых або іншых міфаў, незалежна ад таго — ствараем іх мы самі ці яны ствараюць нас.*

*Палеміка была доўгая і зацятая, аргументы абвінаваўцы ўсё больш жорсткія і безальтэрнатыўныя, абарона патроху ніякавела і ліхаманкава шукалахоць чаго яшчэ на карысць сваіх кліентаў, але без асаблівага плёну... І тут расчыніліся дзверы і ў пакой увайшлі вядомы польскі культуролаг, галоўны рэдактар часопіса "Краснагруда" Кшыштаф Чыжэўскі і паэт, галоўны рэдактар аднаго з самых аўтарытэтных у Польшчы часопісаў "Час культуры" Пётр Кэнпіньскі. Яны толькі што прыехалі на канферэнцыю (натуральна, мы з Ігарам Бабковым былі тут з гэтай самай нагоды), павячэралі і зазірнулі да нас у госці.*

*Як толькі яны ўвайшлі і павіталіся, адразу і здарыўся анекдот. Яшчэ не зачыніўшы за сабой дзверы, Пётр Кэнпіньскі сказаў:*

*— О, "Бум-Бам-Літ" — гэта клас! (Ці нешта вельмі падобнае да гэтага.)*

*— Цікавыя хлопцы (ці нешта падобнае да гэтага), — дадаў Кшыштаф Чыжэўскі.*

# А ХТО ТАМ ІДЗЕ?

***У Фёдара Цютчава ёсць страфа, якая даўно і неадчэпна трывожыць мяне: "Дни сочтены, утрат не перечесть, // Живая жизнь давно уже позади.// Передового нет, и я, как есть,// На роковой стою очереди".***

***Быць першым у чарзе па нябыт — незайздросны стан, але ён невымерна пагаршаецца, калі ты ў гэтай чарзе адначасна і першы, і апошні, як Чынгачгук у рамане Фенімора Купера "Апошні з магікан".***

***Беларуская літаратура (і шырэй — нацыя) раз-пораз небяспечна набліжаецца да "сітуацыі Чынгачгука". У сямідзесятыя гады некаторыя пісьменнікі нават дэкларавалі (прынамсі, у прыватных размовах), што яны апошняе пакаленне беларускіх літаратараў, што наперадзе кожнага з іх паасобку чакае экзістэнцыйная бездань, а за ўсімі імі разам — бездань анталагічная. Сёй-той меў з гэтага нават нейкую мазахісцкую асалоду, бо, што ні кажы, не кожнаму шэнціць быць сведкам апакаліпсісу, хай сабе і ў межах адной асобна ўзятай краіны.***

***Натуральна, што гэты бясконца няпэўны стан паміж быццём і небыццём змушае нас значна часцей і больш пільна (чым у іншых літаратурах) азірацца назад: ці ёсць там хто за спіной, колькі іх, што яны нясуць "на худых плячах"?***

***Як мне здаецца, сёння ў нас у сэнсе "а хто там ідзе", хто там на падыходзе — адна з самых аптымістычных (пасля 20-х гадоў) сітуацыя.***

***Нават не асабліва напружваючы памяць, я гатовы назваць з дзесятак прозвішчаў, вартых, на маю думку, увагі. Каб не выглядаць пустамелем, пералічу хоць бы некалькіх з тых, што першымі згадаюцца: Андрэй Гуцаў, Валерка Булгакаў, Юрась Бушлякоў, Севярын Квяткоўскі, Андрэй Дынько, Сяргей Шыдлоўскі, Міхась Баярын, Усевалад Гарачка, Віктар Слінько, Ільля Сін, Зміцер Вішнёў, Сяржук Мінскевіч, Альгерд Бахарэвіч, Віктар Жыбуль, Алесь Туровіч...***

***Але гэта толькі тыя (і далёка не ўсе), што трапілі на мае вочы, а вочы іншых напэўна стракацяць ад іншых — мне нават і невядомых. Вось чаму я і падумаў, што, можа, нялішне было б адкрыць рубрыку "А хто там ідзе?", каб у яе межах трохі пасумоўнічаць з маладымі людзьмі, якім падабаецца крэмзаць паперу. Распачаць гэтае сумоўе я запрасіў Андрэя Дынько, аўтара "Нашай Нівы", "Крыніцы", "Фрагментаў"... Андрэй Дынько перакладае з французскай, італьянскай, украінскай моваў (Мантэнь, Фуко, Эка, Пірандэла, Элюар, Андруховіч ды інш.), піша навелы, літаратуразнаўчыя і паліталагічныя артыкулы, жыве то ў Мінску, то на Брэстчыне ў вёсцы Заказанцы.***

**Валянцін АКУДОВІЧ:** — Андрэй, на пачатак гаворкі колькі слоў пра "біяграфію" і ўвогуле пра жыццё-быццё.

**Андрэй ДЫНЬКО:** — Ёсць чалавек і ёсць аўтар. Ёсць Андрэй Дынько і андрэй дынько. Не мае сэнсу друкаваць здымак Андрэя Дынько побач з тэкстам андрэя дынька. Не мае сэнсу агучваць сваё прыватнае жыццё, сваю прыватную біяграфію. Я не матадор і не інтэлектуал. Бо а.д. — гэта толькі прылада, сродак, якім А.Д. карыстаецца, каб прыстасаваць да сябе прастору жыцця і яе ландшафты, толькі адмысловая тэхналогія сябе. Тое, што гэтая прылада носіць імя "а.д.", а не, скажам, "ананім", — проста часовая, мінімальная даніна, адкупное, патрэбнае, каб заставацца незалежным на пэўным этапе жыцця. Я чакаю моманту, калі а.д. зможа знікнуць...

**В.А.:** — Выдатны адказ. Толькі малаверагодна, што з яго нехта з чытачоў (улучна са мной) хоць што-небудзь зразумеў пра Андрэя Дынько як пра "асобу, грамадзяніна і літаратара". Хіба далей нешта высветліцца? Ну хоць бы праз наступнае немудрагелістае запытанне: Вы перакладаеце і пішаце прозу, літаратуразнаўчыя і публіцыстычныя эсэ ды артыкулы. Што з гэтага вам прыносіць найбольшае задавальненне?

**А.Д.:** — Пытанне... Па-першае, трэба памятаць пра своеасаблівасць задавальнення як такога ў чалавека, што належыць да пакалення фанабэрыстых мыльных бурбалак. Я — тыповы прадстаўнік свайго пакалення. Дзеці інфляцыі, паслятутэйшаўцы, без дужасці як у палітыцы, так і ў культуры; на нас Бог адпачыў... Трэба лопнуць, каб засталася вартая кропля.

Наша мова і базавае мысленне выхоўваліся на тым жа, што і ў тутэйшаўцаў, на тым, што можна акрэсліць імёнамі багдановіч — паўлюк трус — караткевіч, на літаратуры, што "сцелецца па скронях". З другога боку, нас закранулі дзве эстэтыкі: "здаровая" спрашчэнская — эстэтыка біфштэкса з крывёю, калі характарызаваць яе кулінарна (напр., перавага бэсону, а не вэндэрсу), і ўласна "постмадэрновая" (грынуэю, а не бергману). Плюс той факт, што тутэйшаўцы ўжо спалілі купалу. Плюс разуменне незалежнасці як пачатку ўсяго жывога. Вось і я кінуўся надзімаць сваю бурбалку...

А задавальненне... У шахматах найбольшую асалоду прыносіць не той ці іншы дэбют, а лічэнне варыянтаў, росквіт магчымасцей. Тое, што вы назваеце "перакладам", "прозай" — гэта толькі дэбюты. Дый падзел на іх вельмі хісткі, бо ўсе яны правакуюць чыесьці словы і зрухі, усе яны прыносяць грошы, усе спрычыняюцца да пэўных зменаў ува "мне". Сапраўдны падзел праходзіць не па дэбютах, а па праціўніках. А сапраўдная асалода — ад працэсу, а не ад выніку. Што да вынікаў — тэкстаў, то за большасць з іх нічога, апроч сораму, адчуваць немагчыма.

Найбольшае задавальненне, мабыць, можна атрымаць пры ўмове больш sophisticated дэбютаў: філасофіі, аскезы, бажавольства. Але то — цяжкія дэбюты.

**В.А.:** — Наколькі я зразумеў, "тутэйшаўцы" (літ. суполка "Тутэйшыя") асабіста для вас і для тых, каго вы ўлучаеце ў сваё пакаленне, адыгралі выключную ролю. Гэта папраўдзе так?

**А.Д.:** — Тутэйшаўцы — пункт адліку. Аднак і яны паспяшаліся стварыць іерархію, сістэму каардынат, замкнуць кола; надта хутка пакінулі шчаслівы стан неразумення сябе і свету, нявызначанасці і неакрэсленасці. Усё ім стала ясна... І вось ужо паўсталі новыя сімулякры, не горшыя за наш вечна жывы саюз пісьменнікаў, нібыта не казалі бунтары, што словы "пісьменнік" і "літаратура" — даўно архаізмы. Нібыта забыліся бунтары, што homo scribens — гэта той, каму і ў Інтэрнэце гэтак жа няёмка, як у інтэрнаце; і таму ён лягае і піша.

**В.А.:** — Што з ужо зробленага вамі вам здаецца найбольш важным, што, так бы мовіць, магло б трывала ўвайсці ў агульны рэестр вашых здабыткаў?

**А.Д.:** — Якая файная далікатнасць — "агульны рэестр"... Калі б мы да любога чалавека ставіліся як да ўжо нябожчыка, як было б добра... А то "Крыніца" прадэманстравала, што нават з дубаўца можна за мілую душу зрабіць манекен. "У такія-такія гады Дубавец перайшоў на дзяржаўніцкія пазіцыі" і так далей. Ці ўзнялася б рука напісаць: "у

*Я вельмі выхаваны чалавек і таму наступныя некалькі хвілін не глядзеў у бок Ігара Бабкова. Канешне, ён меў моцныя аргументы супраць "Бум-Бам-Літа", але чаго яны былі вартыя цяпер, калі першае, што ён пачуў у Македоніі ад толькі што сустрэтых польскіх калег, — гэта згадку пра "Бум-Бам-Літ"?*

*Значна пазней, ужо ў Мінску, я даведаўся, што Пётр Кэнпіньскі надрукаваў у сваім часопісе "Час культуры" артыкул пра "Бум-Бам-Літ". Калі ліст трапіў мне ў рукі, то высветлілася, што там не толькі пра "Бум-Бам-Літ". Пётр Кэнпіньскі ў сваім артыкуле спрабуе даць агульны абрыс літаратурнай сітуацыі ў Беларусі, але, безумоўна, галоўным яго героем з'яўляецца "Бум-Бам-Літ". Больш за тое, "лагатыпам" "Бум-Бам-Літ" аўтар пазначае ўсё тое новае, нестандартнае, прагрэсіўнае, што нарадзілася ў нашай літаратуры да з'яўлення "Бум-Бам-Літа", і часам нават падгортвае пад "Бум-Бам-Літ" тое, што не мае да яго ніякага дачынення. Гэта можна было б патлумачыць недасведчанасцю аўтара ў беларускай літаратурнай сітуацыі, але я думаю, рэч тут у іншым. Пётр Кэнпіньскі, магчыма, і выпадкова, сфармуляваў асноўнае прызначэнне "Бум-Бам-Літа" — выступаць у ролі агульнага знака сённяшняй авангарднай і постмадэрнісцкай літаратурнай сітуацыі ў Беларусі.*

*Можна колькі заўгодна даводзіць, што ніхто "Бум-Бам-Літу" такіх паўнамоцтваў не даваў і што шыльду з надпісам "Бум-Бам-Літ" ніводны прыстойны чалавек нават на дзверы прыбіральні не прымацуе, але наўрад ці тут што-небудзь ужо пераменіш... Зрэшты, феномен "Бум-Бам-Літа" патрабуе асобнай ды грунтоўнай гаворкі, і цяпер яе не варта нават распачынаць.*

*Калі я пазнаёміўся з артыкулам Пятра Кэнпіньскага, то падумаў, што няблага было б яго перакласці з польскай мовы. Што і зрабіў. Бо як на сённяшні час, дык гэта досыць рэдкая з'ява, каб на нашу літаратуру звярнула ўвагу якое паважанае замежнае выданне. На вялікі жаль, змясціць цалкам тэкст на старонках "ТЛ" няма ніякай магчымасці. Таму я толькі згадаю некаторыя персаналіі, што не трапілі ў пераклад.*

*Артыкул Пятра Кэнпіньскага ўпрыгожваюць фрагменты з кнігі Людкі Сільновай "Рысасловы" і вокладка аднаго з "Ксэраксаў Беларускіх". Аўтар аналізуе (ці згадвае ў падтрымку сваіх высноваў) творчасць Алеся Разанава, Славаміра Адамовіча, Ігара Бабкова, Алеся Аркуша, Сержука Мінскевіча, Зміцера Вішнёва, Ігара Сідарука. Дарэчы, для свайго артыкула Пётр Кэнпіньскі пераклаў па аднаму вершу Зміцера Вішнёва ("Бочкавы краб") і Ігара Сідарука ("Шоў").*

## *Пётр Кэнпіньскі*

# "БУМ-БАМ-ЛІТ" І БАКСЁРСКІЯ РУКАВІЦЫ

Беларуская літаратура ў Польшчы практычна адсутнічае. Мала перакладаў сучасных аўтараў, не выдаюцца творы класікаў. У аглядах замежных выданняў амаль не згадваецца беларуская перыёдыка. Якуб Колас, Янка Купала, зрэдчас Янка Брыль (і то толькі таму, што яго "Хуткі Нёман" заляжаўся ў некаторых кнігарнях) — гэта адзіныя пісьменнікі, якія прадстаўляюць Беларусь. Пра сучасную літаратуру, якая ствараецца ў Мінску ці Віцебску, мы зусім нічога не ведаем.

* * *

І хоць самі беларусы сцвярджаюць, што іх літаратура перажывае крызіс, але пад крызісам яны хутчэй разумеюць тэхнічныя, выдавецкія і палітычныя праблемы, а не інтэлектуальны патэнцыял сваіх твораў. Калі я пытаўся ў Марціна Шымеца, вядомага публіцыста і рэдактара галоўнага Дома друку (Aroha) ў Браціславе, колькі ў Славеніі значных літаратурных часопісаў, то ён згадаў толькі чатыры найменні. У Беларусі вядомых перыядычных літаратурна-культуралагічных выданняў значна болей, а іх рэдактары працуюць з вялікім імпэтам. Пісьменнікі шукаюць уласныя арыгінальныя шляхі, з'явіліся новыя літаратурныя канцэпцыі, пры гэтым не забываецца, што літаратура яшчэ павінна і прадавацца, таму камерцыйнае мысленне становіцца важнейшым элементам літаратурнага жыцця ў Беларусі. Літаратары, звязаныя з вядомай газетай "Наша Ніва", нядаўна прыйшлі да высновы, што мае сэнс друкаваць і выдаваць празаічныя і паэтычныя тэксты ў Варшаве на добрай паперы, з каляровымі ілюстрацыямі і прадаваць іх па камерцыйных цэнах у Беларусі. Такім спосабам быў выдадзены зборнік інтымнай прозы Адама Глобуса "Толькі не кажы маёй маме". І гэта не адзіны выпадак.

* * *

— Нельга, аднак, упадаць у залішні аптымізм, — сцвярджае Юрась Барысевіч, адзін з лідэраў авангарднай групы пісьменнікаў "Бум-Бам-Літ", на старонках "Беларускай газеты". — Гэтыя камерцыйныя спробы вельмі важныя, але трэба памятаць, што многім цікавым аўтарам публічна наклеены ярлыкі скандалістаў, чаму яны не могуць разлічваць на прыхільнасць шырокага чытача.

Некалькі год назад у Беларусі выбухнула мода на стварэнне літаратурных суполак — цяпер функцыянуе іх па некалькі ў кожным больш-менш значным горадзе. І амаль кожная выдае ўласны часопіс. Самыя папулярныя сярод іх — "Ксэракс Беларускі", "Калосьсе", "Форум", "Крыніца", "Наша Ніва". У верасні гэтага года выйшаў першы нумар "Фрагментаў". (...) З "Фрагментамі" супрацоўнічаюць сябры розных суполак, у тым ліку і "Бум-Бам-Літа", самага маладога літаратурнага руху.

— Самы малады — гэта праўда, — падкрэслівае Юрась Барысевіч. — Але рэч зусім не ва ўзросце. А толькі ў тым, хто што можа сказаць. З намі і прадстаўнікі старэйшых генерацый; падтрымлівае нас, сярод іншых, Валянцін Акудовіч, вядомы крытык, рэдактар часопіса "Крыніца".

Бум-Бам-Літ робіць рэкламу матчынай мове. Літаратары, звязаныя з гэтым рухам, усе перформансы і літаратурныя выступы прэзентуюць на беларускай мове, іх акцыі звычайна адбываюцца ў Слуцку, Віцебску, Полацку і Мінску. Каб мацней зацікавіць публіку, паэты выкарыстоўваюць незвычайную сцэнаграфію, прыёмы тэатралізацыі. Аўтары граюць на розных інструментах. Іх мастацтва, як яны самі падкрэсліваюць, скіравана на ўспрыманне не столькі розумам, колькі пачуццямі.

Сваіх чытачоў і слухачоў сябры "Бум-Бам-Літа" спрабуюць знайсці рознымі спосабамі. Выкарыстоўваюць дзеля гэтага пошту, факсы, арганізуюць незалежныя дні кніжкі. У інтэрв'ю "Беларускай газеце" Юрась Барысевіч падкрэслівае:

— Кожная наша кніжка ёсць мастацкая рэч. Нешта паміж рукапісам і мастацкай графікай.

* * *

Сябры "Бум-Бам-Літа" свае працы экспануюць таксама ў галерэях і працуюць з прадстаўнікамі іншых відаў мастацтва. Паводле Барысевіча, літаратура можа набываць розныя арфаграфічныя і графічныя кшталты:

— Тое, што прэзентуе "Бум-Бам-Літ", блізкае па духу да авангарднага жывапісу, паэты выступаюць таксама з беларускімі панкавымі гуртамі. Да прыкладу, з гуртамі NRM і "Новае Неба".

На адным з выступленняў у Віцебску паэты паказвалі баксёрскія рукавіцы. На адной з іх Барысевіч зрабіў надпіс "Так", на другой "Не". Паэтаў пыталі, што агульнага паміж боксам і літаратурай? Адказ быў прыкладна такі: рытм удараў бокса можна лёгка параўнаць з рытмам верша, да таго ж слова часта ўздзейнічае з сілай, роўнай удару. (...)

Тэкст, паводле Юрася Барысевіча, можна падаваць самымі рознымі спосабамі. Да падобнай высновы яго падштурхнула думка Антанена Арто, які некалі сцвярджаў, што XX стагоддзе сваімі наступствамі стварае такую сітуацыю, у якой метафізіку і маральныя пастулаты можна даводзіць чалавеку толькі "праз яго скуру". Барысевіч патрактаваў словы Арто літаральна і летась першага сакавіка на сцэне Дома літаратара ў Мінску выступіў перад публікай аблеплены гарчычнікамі, на якіх былі напісаны цытаты з Антанена Арто.

Адна з высноў Барысевіча наступная:

— Пісаць можна не толькі на паперы, для гэтага выдатна падыходзіць і чалавечае цела.

* * *

"Бум-Бам-Літ", а таксама іншыя суполкі паэтаў, не знаходзяць разумення ў старэйшага пакалення. Адносіны творцаў, якія гуртуюцца каля дзяржаўных установаў, да новай літаратуры таксама негатыўныя. Некаторыя сцвярджаюць, што "Бум-Бам-Літ" толькі паўтарае вопыт французскага і расійскага авангарда. Самі паэты з Віцебска, Мінска ці Полацка, не адмаўляючы сваёй сувязі з дадаістамі ці сюррэалістамі, сцвярджаюць, што іх творчасць абапіраецца на зусім іншую тэхніку. Да таго, што было напрацавана дадаістамі, дадаюцца свае ўласныя ідэі. Іхнія выступы і надрукаваныя творы многіх шакіруюць, але нямала і тых, хто ў захапленні ад гэтых эксперыментаў. Часам у іх просяць аўтографы, а часам успрымаюць варожа.

Летась "Бум-Бам-Літ" арганізаваў у Віцебску, як здаецца, удалую акцыю "Арт-Прагноз — 96". Каб убачыць мастацкія перформансы і інсталяцыі, паслухаць паэтаў, трэба было заплаціць за ўваход суму, роўную долару. (Такая практыка яшчэ вельмі рэдкая ў Беларусі.) За гэта арганізатары падрыхтавалі шмат сюрпрызаў. Напрыклад, можна было пакаштаваць верш, выкладзены з піражных, або паглядзець "Бум-Балет".

"Бум-Бам-Літ" сёння працягвае сваё існаванне, хоць многія маладыя аўтары сцвярджаюць, што патэнцыял гэтай суполкі хутка будзе вычарпаны. Але тыя, хто больш прыхільна ставіцца да "Бум-Бам-Літа", кажуць: тое, што "Бум-Бам-Літ" аб'ядноўвае вакол сябе не толькі літаратараў, але і артыстаў балета, музыкантаў, харэографаў і крытыкаў, толькі пазітыўна ўплывае на яго развіццё.

"Бум-Бам-Літ", што натуральна, не мае ніякай агульнай праграмы. Кожны сябра "Бум-Бам-Літа" індывідуальна маніфестуе свой шлях "вызвалення літаратуры з-пад тыраніі дзяржаўных выдавецтваў і друкарняў". Татэмам руху з'яўляецца бляшаны тазік, які маладыя літаратары заўсёды прыносяць з сабой на спатканне са слухачамі.

*"Czas kultury", № 5–6, 1996.*

**З польскай пераклаў**
**Валянцін АКУДОВІЧ**


*Надмагілле Філіпа По. Скульптар Антуан Ле Муацюр'е.*

40 — 45 гадах Альбэр Камю перайшоў на дзяржаўніцкія пазіцыі"?

**В.А.:** — Вас называюць украінскім беларусам, вы і цяпер больш часу бавіце на Берасцейшчыне, чым у Мінску, і вам не з палемічных артыкулаў вядома сітуацыя на Палессі. Ваш погляд на "яцвяжскую" праблему і і праблему ўкраінцаў Берасцейшчыны?

**А.Д.:** — Ёсць такая краіна Оюм, уся залітая вадою. На хвалях пагойдваецца, паціху ідучы на дно, доўгі даўбёны човен. Гэта і ёсць Палессе. Якая асалода — тануць на тым чоўне!

**В.А.:** — Андрэй, пэўна, як гэта звычайна бывае ў маладых людзей, у вас ёсць нейкая звышмэта, нешта, дасягненне чаго рассеяла б навалач сімулякраў і высветліла б ваша жыццё як анталагічную сапраўднасць? Калі такая звышмэта ёсць, то ў чым яна палягае: у быцці, у трансцэндэнцыі, у тэксце?

**А.Д.:** — У двух файнейшых крыніцаўскіх тэкстах — вашым, пане Валянціне, і Юрася Барысевіча — самому слову "тэкст" у родным склоне надаецца канчатак "а" (тэкста, а не тэксту, як патрабуе беларуская граматыка). У Юрася ўсцяж, а ў вас — у пераважнай большасці выпадкаў. Нават калі тут проста рэдактарская памылка — гэта вельмі характэрная памылка. Тут і пагарда да нормаў мовы, і суб'ектывізацыя таго, што мы называем "тэкстам". Калі ж зірнуць глыбей — немагчымасць заставацца ў рамах нарматыўнай граматыкі. Наша мова наладжана ў такі спосаб, што яна прыручаецца і б'е нас па пальцах, варта нам проста ўявіць "тэкст" суб'ектам. Адзінкавы, але ўзорны выпадак. Думка замуроўваецца, закоўваецца ў гіпс зацвярдзелых правіл і канструкцый. Найбольш ясна я адчуў гэта, перакладаючы фуко, мантэня. Думка атрафіруецца ў каменным мяшку моўнай "нормы", перадусім нормы сінтаксісу. Сінтаксіс — гэта ўсё, сінтаксіс мыслення — яшчэ больш.

Тутэйшаўцы наляглі на новую лексіку, і — лагічна — стварылі вялікую паэзію. Дзеля вялікай прозы трэба раструшчыць гіпс і не баяцца новых, іншых сінтаксісаў мыслення. Асабліва пакутуе ад занарматываванасці беларускай мовы той, хто спрабуе напісаць мадэрны раман. Буйны пісьмовы жанр — жывадзёрная штука; аўтар мусіць паставіць выпрацоўку "файных сэнсаў" на канвеер. Дзеля гэтага ў наш час мала "мысліць як дыхаць" трэба яшчэ, каб мова давала магчымасць "другога дыхання".

У разбурэнні нарматываў мовы палічыў бы за гонар прыняць удзел любы, чыё імя пачынаецца з маленькай літары. Аднак разбурэнне, брутальны і вітальны працэс, патрэбны і ўласцівы жывой мове, а не чарговай лаціне. Цяпер жа цвёрда ўзяты курс на ірландызацыю ўсяго беларускага, і нават "наша ніва" гуляе ў чаканне смерці; амбітны мільгае праект: прыйсці да хоць і абязмоўленай, але зацята незалежнай Беларусі са жменькай беларускамоўных, масонскай ложай культурных людзей. Але я нарадзіўся надта на захадзе, каб ацаніць цымес падобных праектаў. Вось.

А Беларусь, як і любая труна, патрабуе цела, то бок залежнасці. Звышмэта адна — застацца незалежным.

# ПЕРШАЯ КНІГА ПАЭТУ

Ганна Кісліцына напісала кнігу пра Алеся Разанава. Гэта першая кніга пра нашага слыннага паэта. А колькі іх яшчэ будзе! Ужо і самога паэта не будзе (дай Бог яму доўгага жыцця), а пра яго ўсё будуць спрачацца і пісаць кніжкі... Во клопату нарабіў чалавек людзям!




# ЗА КРАЕМ НЕБАКРАЙ

Наша газета ўжо згадвала пра прэзентацыю літаратурнага часопіса "Край" (Полацк). На сённяшнім часе выхад чарговага нумара (№ 2) часопіса не тая падзея, каб звяртацца да яе двойчы. Але я ўсё ж такі хацеў бы сказаць колькі слоў з гэтай нагоды ад сябе, бо тут мы маем праблему, якая яшчэ толькі пачынае актуалізавацца, а менавіта — праблему рэгіяналізацыі літаратуры.

Нельга сказаць, што гэта зусім новая праблема. І за саветамі рабіліся спробы змякчыць прэс татальнай цэнтралізацыі літаратурнага працэсу, афіцыйна ствараліся абласныя аддзяленні Саюза пісьменнікаў, якія зрэдчас выпускалі альманахі або зборнікі з творамі сяброў той ці іншай "філіі". Натуральна, усё тое было адно бутафорыяй, гульнёй у дэцэнтралізацыю.

Рэальна гэты працэс распачаўся ў 90-х, калі ўтварылася Таварыства вольных літаратараў. Таму няма нічога дзіўнага, што менавіта лідэр ТВЛ Алесь Аркуш апошнім часам пачаў актыўна агучваць ідэю рэгіяналізацыі літаратуры (і шырэй — культуры) праз творчасць рэгіянальных элітаў.

Цэнтр (Мінск), прынамсі "неафіцыйны", паставіўся да тэзы Алеся Аркуша, як мне здаецца, з паразуменнем, бо дэцэнтралізацыя ў культуры — натуральная для сучаснай Еўропы з'ява... Але вось тут пачынаецца самае цікавае. У тым жа самым Полацку (Наваполацку), дзе месціцца "штаб-кватэра" ТВЛ і канцэптуальна фарміруецца яго орган — часопіс "Калосьсе", з'яўляецца яшчэ адзін часопіс ("Край"), галоўны рэдактар якога Навум Гальпяровіч больш чым скептычна ставіцца да ідэі рэгіяналізацыі літаратуры праз рэгіянальныя эліты.

— Гэты край — кажа Навум Гальпяровіч, пэўна, маючы на ўвазе як Полаччыну, так і свой часопіс, — павінен быць цікавым і для Парыжа. Я чалавек сусвету і хачу зрабіць лепшы ў свеце часопіс.

Натуральна, лепшы ў свеце часопіс немагчыма зрабіць, абапіраючыся на рэгіянальную эліту. Таму першачарговая мэта Навума Гальпяровіча — гэта завабіць у свой "Край" нацыянальную эліту, а потым ужо — і сусветную.

Іншая рэч, як гэта зрабіць і ці здолее ён гэта зрабіць (тэарэтычна ўсё магчыма, калі ёсць здаровыя амбіцыі і магутная энергія. Змаглі ж у Віцебску стварыць унікальны часопіс "Дыялог. Карнавал. Хранатоп", дзе друкуюцца тэксты "бахціністаў" з усяго свету). Але я тут пра іншае. А менавіта пра тое, што працэс дэцэнтралізацыі літаратуры на Беларусі становіцца ўжо нечым падобным на рэальнасць. Бо калі ў адным асобна ўзятым горадзе (Полацку) узнікаюць два часопісы, канцэптуальна супрацьлеглыя не толькі выданням цэнтра, але і адзін аднаму, то за гэтым, безумоўна, нешта ёсць. Іншая рэч, наколькі гэтае "нешта" мае ў нашай сітуацыі перспектыву...




**Аўтар Трыбуны "Л" Валянцін АКУДОВІЧ**

# "ЕСЛИ НАШИ СЪЕШЬ ПЕЛЬМЕНИ...", або Дурацкія гульні ў люстэрку віртуальнасці

***Мы жывём у вясёлую пару. То тут то там узнікаюць усялякага роду фантомы. Нехта патрабуе ўзнаўлення манархіі, той-сёй, настальгічна згадваючы Бакуніна і Крапоткіна разам з Нестарам Іванавічам, — за матухну-анархію, хтосьці — за камуністычную дубінку сталінскага генія, які бліскуча прадэманстраваў, як ёю "гартаваць сталь"... Ды што там манархісты-анархісты! Амерыканская пісьменніца, знакамітая Гертруда Стайн, лічыла, што Гітлер заслугоўвае Нобелеўскай прэміі міру.***

***Усё гэта было... І хадзіць па прыклады далёка не трэба. Дастаткова ўзяць люстэрка гісторыі ў рукі, зазірнуць у яго... і перад намі адчыняцца дзверы ў рэальнасць, якая была і ёсць зараз у віртуальным стане. Крый Божа, каб той стан зноў не стаў рэальнасцю трэцяга тысячагоддзя...***

Цяпер я і не прыгадаю, калі ўпершыню прачытаў апавяданне Герберта Уэлса "Краіна невідушчых". Але дакладна ведаю: тады ўспрыняў яго як цікавы аповед пра сляпых...

У жыхароў гэтай краіны "зрок гаснуў так паволі, што людзі амаль не заўважылі яго страты". У рэшце рэшт яны прызвычаіліся да невідушчасці, мяркуючы, што інакш і быць не можа. Калі ж у іх даліну трапіў адзін відушчы, то пачалася гульня ў "жмуркі", толькі наадварот: вочы завязаныя ва ўсіх, акрамя аднаго. Відушчы казаў пра шчасце бачыць, але яго не разумелі. Тут не ведалі слова "сляпы", "бачу", а таго, хто іх ужываў, лічылі вар'ятам ці чалавекам другога гатунку. Усталяваныя адвеку парадкі ў Краіне Сляпых падказвалі, як паводзіць сябе яе ўладарам: каб стаць сапраўдным грамадзянінам гэтай краіны, неабходна было перанесці "простую хірургічную аперацыю" — выдаліць вочы. Толькі гэтак і ніяк інакш можна было ўзняцца "з рабства і прыніжэння да волі невідушчага грамадзяніна".

Гэтае апавяданне Герберт Уэлс напісаў 85 год назад...

Што там казаць? Мы жылі ў падобнай краіне доўга. Некаторыя разумнікі яшчэ называлі яе краінай Саветаў. Усе, маўляў, раяць, як жыць, будаваць і марыць у суцэльнай ліхаманцы штодзённасці, а выніку ніякага... Цяпер тыя ж самыя разумнікі, праўда, крыху пасталеўшыя, кажуць, што мы жывём у краіне Дурняў, відаць, па аналогіі ці то са знакамітай бацькаўшчынай Бураціна, ці то з расійскімі дарогамі і героямі Гогаля.

І ўсе пагаджаюцца. Рагочуць. Хто весела, хто — лямантуючы, хто, як той жа Мікалай Васільевіч, — скрозь слёзы. А нехта — стрымана, прыцішана, па былой завядзёнцы азіраючыся па баках: як бы хто з чужынцаў не пачуў гэтага іранічнага смеху. Хоць дэмакратыя, але ці мала што...

Вох, гэтая дзіўная Краіна! Гады тры таму ў расійскай Самары з'явілася таварыства дурняў, сябры якога, напрыклад, маглі вужом перапаўзаць праз шматлюдную вуліцу. Чуткі пра іх, як гэта звычайна бывае, хуценька разнесліся па белым свеце. Таварыствы і саюзы дурняў сталі расці як грыбы ў розных краінах і рэгіёнах СНД. Скажам, у Санкт-Пецярбургу і Маскве адкрыліся сапраўдныя Акадэміі дурняў пад кіраўніцтвам вядомага штукара Вячаслава Палуніна, дзе мяркуецца, як я чуў, выхоўваць сапраўдных "майстроў дурацкіх справаў". Дарэчы, сярод праектаў акадэміі прадугледжана адукацыя па спецыяльных праграмах і для таленавітых замежных стажораў, у тым ліку — і з Беларусі.

А вось зусім нядаўна ў Волагдзе выпусцілі пельмені з геніяльным двухрадковікам на пачку: "Если наши съешь пельмени, Будешь вечно жить, как Ленин". Кажуць, валагдачане ўраз расхапалі гэты цудадзейны харч.

А ці ведаеце вы, чым займаюцца некаторыя мае знаёмыя інтэлектуалы па вечарах, у хвіліны адпачынку ад мальберта? Вымаюць з шырокіх штанінаў прабітыя днём у транспарце талоны, адмочваюць іх і акуратна прасуюць прасамі. І талон робіцца зноў навюткім — ніякі кантралёр з міліцыянтам побач былых дзірак не заўважыць.

Так, у нас, у славян, ёсць чаму павучыцца. Тут мы маем самы багаты вопыт у свеце. Можна згадаць класіку, народныя традыцыі і смехавую культуру. Ці скамарохаў, якіх праследавалі, што тых зладзеяў... Можна згадаць юродзівага з "Гадунова", у якога рэквізавалі грошык, гусляроў, бахараў, якіх ганьбілі і Кірыла Тураўскі, і Семіён Полацкі і іншыя нашыя асветнікі. Ці скамарохаў сучасных, зусім блізкага нам мінулага, на чале з артыстам Юдзенічам: гадоў дваццаць назад пра іх шмат згадвалі і ў Мінску і ў Гомелі, захапляліся іх арыгінальным гумарыстычным і саркастычным талентам. Праўда, на мастацкім савеце тагачаснага Міністэрства культуры БССР іх адпрэчылі як не адпавядаючых, па-сучаснаму кажучы, нашаму менталітэту. А хлопцы былі, помніцца, па-дурацку таленавітыя. Дзе яны цяпер?

Аднак самая дзіўная з'ява — дурань ля ўлады, гэта значыць ля стырна дзяржавы. Цэлы шэраг масак уладароў гэтага тыпу, вар'яцкіх і жахлівых, паказаў у свой час геніяльны прарок і кароль сарказму Салтыкоў-Шчадрын. Яго гісторыя аднаго горада, вядома, Глупава, з нехлямяжымі жыхарамі — гэта вечная гісторыя ўсіх гарадоў былой Расійскай імперыі, і, заўважце, зусім не састарэлая.

А пачыналася ўсё ў сярэдзіне XVIII стагоддзя. Вялікі князь Карл Пётр Ульрых, які стаў Пятром III, на адной афіцыйнай тусоўцы паслаў як мага далей — недзе на тры літары — сваю жонку Кацярыну, потым — Вялікую. Шок быў неверагодны. Увогуле, сваім цемрашальствам і нявыхаванасцю Пётр III уражваў усіх. У ім сапраўды было нешта ад вар'ята. Ну, напрыклад, ужо пабраўшыся шлюбам, ён працягваў гуляць у лялькі і салдацікі. Штодня напіваўся ўшчэнт і ганяўся за сваімі прыдворнымі, пагражаючы разбурыць іх шлюбы і ажаніць наноў па свайму жаданню. Між іншым, жонка яго, Кацярына, на сваю абразу не забылася і пазней з дапамогай хвацкіх ваяк-гвардзейцаў пазбавілася ад мужыка-недарэкі. Дакладней, ад нягеглага блазна. Але як ні дзіўна, паспалітыя, гэта значыць працоўныя, масы, ніяк не маглі забыцца на Пятра III. Пад яго імем, дарэчы, і з'яўляецца самазванец, данскі казак Ямеля Пугачоў.

Наступны яркі прадстаўнік дурняў ля ўлады — імператар Павел І. Аднойчы ён аб'явіў вайну Англіі, але пасля таго, як Растапчын праспяваў яму любімую арыю, скасаваў свой загад. Або вось яшчэ выпадак — з генералам Урангелем. Як толькі генерал аддаў Богу душу, Павел аб'явіў яму "ў прыклад іншым" строгую вымову. Тут, натуральна, можна правесці паралель з сумным лёсам паручніка Кіжэ, бліскуча апісаным Тынянавым.

Той самы Павел І забараніў вымаўленне ўсялякіх там вальтэр'янскіх слоўкаў, тыпу "свабода", "вольнасць" і нават "клуб". Ён, скажам, мог выхапіць у афіцэра эспантон (дзіда такая) і маршыраваць разам з агульным строем — і крый Божа, калі пры гэтым нехта ўсміхнецца ці пысу скрывіць. А народ? Народ, як яму і належала, вітаў гасудара з вялізным і, галоўнае, шчырым захапленнем...

І гэтак — ва ўсе часы. Павел забараніў апладысменты, Мікалай І — бароды пры сваёй імператарскай гаспадарцы. Ну, не спадабаліся імператару бароды — і усё тут. Між іншым, ягоны продак — таксама выдзіраў сяму-таму бароды... Але самае цікавае, што насельніцтва пры Мікалаю, гэтаксама як і пры ягоным татуліку, імкнулася не сутыкацца з ім пры яго выправах на прыроду ці на сустрэчу з калегам з якой-небудзь суседняй дзяржавы — мала што цару ў галаву стукне?

Затое ў краіне парадак быў.

Але як толькі да ўлады дапялі людзі з ідэямі асветы, разняволення, умацавання дзяржавы, пачалося дзіўнае і невытлумачальнае для логікі вар'яцтва. "Меланхолический Якушкин, казалось, молча обнажал цареубийственный кинжал" на пераможцу Напалеона. Беларус Грынявіцкі шпурнуў бомбу пад колы карэты ягонага ўнука — Аляксандра-вызваліцеля. Аляксандр Ульянаў вымудрагеліў бомбу для наступнага імператара...

Патрэбна ды як яшчэ патрэбна цвёрдая рука блазна!

Мікалай II быў чалавекам добрым і бездапаможным. "Хадынкі" ён перапалохаўся да істэрыкі. Увогуле, у яго пару блазны і дурні сноўдаліся паўсюль. Бясспрэчна, найвялікі блазан з блазнаў — Грыгорый Распуцін. А Гапон? А Азеф? А астатнія?

Зрэшты, "астатнія" якраз усё і выправілі. З 17-га года ўсталёўваецца геніяльная эпоха ўлады блазнаў. Фарс пачаўся з "самага адукаванага ў свеце ўрада", у якім на самай справе былі суцэльныя невукі, гэта значыць людзі амаль без адукацыі, — Свярдлоў, Зіноўеў, Калінін, Кагановіч, Луначарскі, Троцкі, Урыцкі, Рыкаў, Валадарскі; праўда, Каменеў і Бухарын трохі вучыліся ў Маскоўскім універсітэце. Я ўжо не кажу пра пастуха і "луганскага слесара" Варашылава. Нават дваранін, ён жа юрыст Ульянаў, які не выйграў ніводнага працэсу і ненавідзеў Дастаеўскага ("на эту дрянь у меня нет свободного времени"), цягнуў з класікаў толькі тое, што было яму патрэбным у "барацьбе за вызваленне рабочага класа", — з Шчадрына, Тургенева, Крылова, Чарнышэўскага. Нават з Талстога ён схітрыўся зрабіць "люстэрка рускай рэвалюцыі"! А можа, Ільіч меў рацыю, калі лічыў, што інтэлігенцыя — "гэта не мозг нацыі, а гаўно"?

Ледзьве не забыўся сказаць яшчэ пра адну, вельмі істотную і тыповую для вялікіх дзівакоў асаблівасць. Пэўна, Славянія — адзіная планета ў сусвеце, дзе маглі так лёгка і безадказна абяцаць зрабіць нешта добрае для свайго электарата. Пачыналася гэта са Сценькі Разіна. Ён, памятаецца, як толькі з'явіўся, так адразу і паабяцаў народу даць волю. Ягоны калега па прафесіі, ці, больш дакладна, па промыслу, ужо згаданы вышэй Пугачоў, абяцаў нешта больш рэальнае за волю. У прыватнасці, узнагародзіць "і рэкамі, і зямлёй, і травамі, і волавам, і порахам, і грашовым заробкам, і хлебным правіянтам". А яшчэ Пугачоў грукаў сябе ў грудзі і кляўся, што "пасля перамогі ўсялякі зможа адчуць цішыню, спакойнае жыццё, якое давеку працягвацца будзе". На жаль, легітымная імператрыца Кацярына II не зразумела прагрэсіўных праектаў лідэра апазіцыі і загадала адсекчы бунтарскую галаву на Балотнай плошчы.

У постцарскія часы абяцанкі пасыпаліся, як бульба з дзіравага меха ў нягеглага калгасніка. Ільіч абяцаў, што "тое пакаленне, якому цяпер 15, будзе праз дваццаць гадоў жыць у камуністычным грамадстве". Сталін перспектыву таксама маляваў, але не настолькі ўражальную. У яго, цвярозага рэаліста, былі задачы больш важныя.

Затым прыйшоў Мікіта Сяргеевіч і пакляўся "дагнаць і перагнаць Амерыку", а капіталізм увогуле "запхнуць у труну" і пабудаваць праз дваццаць год камунізм. Пасля Хрушчова генсек здрабнеў. Ільіч Другі разумеў, што яго папярэднік крышку перабольшыў з абяцанкамі. Таму ён абяцаў і ў той самы час як быццам не абяцаў: "...мы яшчэ не дасягнулі камунізму, але ўвесь свет бачыць, што ўся дзейнасць партыі... накіравана на тое, каб зрабіць усё неабходнае на дабро чалавеку"

І гэтак 18 гадоў...

Маўклівы Андропаў і ўвогуле нічога не абяцаў. Наадварот, толькі патрабаваў: падвышаць вытворчасць працы на 1 адсотку, уласны кошт на 0,5 адсоткі. Чамусьці яго сталі паважаць. Але неўзабаве яму на змену ў палітбюроўскай вахце прыйшоў Канстанцін Усцінавіч. Гэты ўжо нічога не абяцаў і нічога не патрабаваў, а толькі заклікаў. А куды і да чаго — пэўна, і сам не ведаў.

А потым быў Міхась Сяргеевіч. Звабная ўсмешка і пяшчота ў вачах... Нам абяцалі ў бліжэйшым будучым усе цуды раю! Кожнаму кватэру да 2000-га года. Маўляў, створым лепшыя ў свеце легкавікі, ацвярозім, хто яшчэ не ацверазіўся... "Але нядоўга музыка гучала". Хутка Міхася Сяргеевіча быццам падмянілі, нават у лексіконе: "напоўніць новым зместам", "надаць другое дыханне", "працэс пайшоў"...

Народ усяго гэтага не зразумеў...

* * *

"Вясёлыя дзецюкі" ў нас не перавяліся, і жарцікі ў іх, натуральна, адпаведныя засталіся. Нават у дробязях. Да прыкладу, летась Падсвільскі камбінат харчовых прадуктаў, былы бровар, выпусціў партыю — кажуць, нішто сабе — пладова-ягаднага віна "Водар мяты". Усё бы нічога, ды вось мастацкае афармленне... Экспазіцыю этыкеткі на пляшцы завяршала каляровая выява... Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь. Вядома, любоў да моцных напояў у беларусаў займае не апошняе месца ў адвечных памкненнях да ўласнай дзяржаўнасці, але навошта ж гэтак "разумна" даводзіць пра тое ўсяму свету?

... А вы ўсё яшчэ жадаеце, каб было "як тады"? Віртуальнасць, пра якую згадваў дзядуля Арыстоцель, вох, якая небяспечная штуковіна!

**Барыс КРЭПАК**

**P.S.** Задачкі Разумнікам: а) якога колеру быў белы конь у Напалеона? б) чым пахне "Водар мяты"? в) што будзе з галавой, "Если наши съешь пельмени..."?

**Б.К.**



*Пітэр Брэйгель. "Дзіцячыя гульні". (Фрагмент).*

# Я ПЕРАД ВАМІ З ПАМЯЦЦЮ СВАЁЙ...

## Мае сустрэчы з Якубам Коласам



Я.Колас на юбілеі Адама Міцкевіча. 1955. (Друкуецца ўпершыню.)

Пасля вайны я скончыў мастацкі інстытут у Вільнюсе. Прыехаўшы ў Маскву, я ўпершыню пабачыў жывога Коласа на ўсесаюзнай выставе ў Акадэміі мастацтваў. Я звярнуў увагу, што каля маіх работ стаіць група, так бы мовіць, джэнтльменаў, якія пра нешта гавораць. Я наблізіўся: размаўляюць па-беларуску, і гэта мяне вельмі зацікавіла. Падыходжу бліжэй і чую: "Ці то беларус, які аблітовіўся, ці то літовец, які абеларусіўся", — прамовіў адзін з іх. Дык гэта ж Якуб Колас! Я пазнаў яго па шматлікіх партрэтах, што мне даводзілася бачыць. Тут жа Колас і яшчэ адзін спадар, зусім сівы, развіталіся з астатнімі і пайшлі. Я пашкадаваў, што не наважыўся падысці да іх раней. А тыя, якія засталіся, удвух працягвалі разглядаць творы. Я набраўся смеласці, падышоў да іх, прадставіўся, сказаў, што гэты "беларус, які аблітовіўся", — я, аўтар гэтых гравюр. Мае творы былі на тэму Літвы і размешчаны ў літоўскім раздзеле выставы, бо экспазіцыя была падзелена паводле прыналежнасці да рэспублік, а подпісы былі зроблены па-беларуску. Таму Колас, верагодна, і звярнуў увагу, што на гравюрах адлюстраваны знаёмы яму Вільнюс, а подпісы — беларускія. Адным з маіх новых знаёмых аказаўся тагачасны міністр культуры Рыгор Якаўлевіч Кісялёў.



Я.Колас у лечкамісіі. 1955. (Друкуецца ўпершыню.)

У той час на Беларусі графікі, можна з упэўненасцю сказаць, амаль не было. На ўсесаюзнай выставе ў беларускім раздзеле былі прадстаўлены, у асноўным, жывапіс і скульптура. Таму міністр так уважліва разглядаў літоўскую графіку. Разгаварыўшыся, ён сказаў мне, што на наступны год пры тэатральным інстытуце адкрываецца мастацкі факультэт і, калі я згодны, дык міністэрства запросіць мяне выкладаць графіку. З вялікай ахвотай я пагадзіўся, адказаўшы, што хоць і добра пачуваюся ў Літве, вывучыў літоўскую мову, але мару пераехаць жыць і працаваць у родную Беларусь...

Так я пачаў працаваць выкладчыкам графікі ў тагачасным тэатральна-мастацкім інстытуце. Прыгадваю такі выпадак: аднойчы я напісаў артыкул у газету. Калі ён быў надрукаваны, я пайшоў у бухгалтэрыю друкарні імя Сталіна, каб атрымаць грошы. Бухгалтэрыя месцілася на першым паверсе ў маленькім пакойчыку. За перагародкай сядзела бухгалтарка, а ля вакна, у куточку, — галоўны бухгалтар. Каля яго я ўбачыў ужо знаёмага мне Якуба Коласа: ён гутарыў аб нечым з галоўным. Касірка накіравала мяне з маёю паперчынай да галоўнага бухгалтара, які павінен быў яе падпісаць. Бачачы, што той заняты гутаркаю з Коласам, я вырашыў пачакаць, пакуль яны скончаць размову. Я звярнуў увагу на тое, што Колас гаварыў па-беларуску, а бухгалтар адказваў яму па-руску. А змест размовы быў прыблізна наступны: Колас павінен быў атрымаць ганарар за надрукаваныя вершы ці паэмы. А паэтам, як вядома, плацяць за колькасць надрукаваных радкоў. Дык вось, Колас, падлічыўшы радкі у надрукаванай кнізе, звярнуў увагу на тое, што радкі былі падлічаны не правільна. "А дзе ж тыя сем радкоў? Што ж, іх певень скляваў, ці што?" — міжволі пачуў я Коласавы словы. Бухгалтар нешта яму тлумачыў, апраўдваючыся, што нехта няправільна падлічыў, што ў наступны раз яму даплацяць, пераплацяць і г.д. Убачыўшы, што я чакаю яго, бухгалтар звярнуўся да мяне: "Што ў вас?" Я па-беларуску адказаў яму, што мне патрэбны ягоны подпіс і пячатка. Колас, які ў гэты момант нешта пісаў, уважліва зірнуў на мяне. Калі мы абодва выходзілі з пакоя, ля дзвярэй нечакана атрымалася невялікая затрымка, выкліканая тым, што праход паміж сталамі быў вузкі і застаўлены крэсламі. Я пасунуўся ўбок: "Толькі пасля вас. Тым больш, што вы болей грошай атрымалі. А ў каго болей грошай, той і павінен праходзіць першым". Гэта быў няўдалы жарт, і я адразу зразумеў гэта. Колас, напэўна, заўважыў маю збянтэжанасць, але працягваў размову. Ён, мабыць, таксама адчуў няёмкасць ад таго, што незнаёмы чалавек стаў сведкам ягонай размовы з бухгалтарам. Працягваючы тэму грошай, ён сказаў, што вельмі не любіць, калі яго спрабуюць ашукаць. "Я сам магу каго хочаш ашукаць", — усміхаючыся, заначыў ён. На гэтым гутарка нібыта скончылася, і я не ведаў, што рабіць далей: ісці або не? "А чым вы зарабляеце на хлеб надзённы?" — спытаўся ў мяне Колас і паглядзеў так добразычліва, што мая збянтэжанасць адразу ж знікла. Я адказаў, што я — мастак, які падае вялікія надзеі. Колас усміхнуўся, і было бачна, што жарт яму спадабаўся. Я расказаў пра тое, што нарадзіўся пад Навагрудкам, скончыў Мастацкую акадэмію ў Вільнюсе, навучыўся размаўляць па-літоўску, працаваў у гэтай жа Акадэміі, выкладаў там графіку, афармляў ягоную кніжку, надрукаваную на літоўскай мове. Я адзначыў таксама, што цяпер выкладаю ў мастацкім інстытуце і, вядома ж, мару стаць сапраўдным мастаком. "Вы ж зямляк нашага агульнага паэта Адама Міцкевіча. Міцкевіч таксама і беларускі паэт, толькі шкада, што ён пісаў па-польску і таму палякі яго прысвоілі". Я расказаў, што чытаў Міцкевіча ў перакладзе на літоўскую мову, але гэта не тое, што ў арыгінале. "Калі-небудзь, напэўна, і мы дачакаемся салiднага перакладу Адама Міцкевіча на беларускую мову", — сказаў Колас. Напрыканцы нашай размовы Колас пажадаў мне поспеху і дадаў: "Малюйце для нашай культуры". — "Шчыра дзякую, Канстанцін Міхайлавіч, буду імкнуцца". Колас, прыязна ўсміхаючыся, працягнуў мне сваю вялікую далонь...

З Коласам было вельмі цікава размаўляць, але я троху саромеўся, бянтэжыўся перад такім вялікім чалавекам, за што неаднойчы потым сам сябе лаяў. Колас, мабыць, заўважаў такое стаўленне да сябе, таму гутарку заўсёды вёў вельмі тактоўна і добразычліва. Ён умеў стварыць уражанне, што вельмі рады сустрэчы і прыемнай размове. А распавядаў Колас надзвычай цікава, але проста і ў той жа час вобразна.

...Некалькі гадоў запар я праводзіў летнюю практыку са студэнтамі на Нарачы. І там колькі разоў давялося ўбачыцца з Коласам. Ён прыязджаў да Міхася Лынькова. Лынькоў, вярнуўшыся з Амерыкі, дзе ён браў удзел у пасяджэнні ААН, прывёз з сабою рухавічок для лодкі і амаль штодня аб'язджаў усё возера. Летнік Лынькова тады быў яшчэ недабудаваны, і каля яго, проста на траве, ляжалі шчыты, зробленыя з дошак. На іх было зручна пасядзець, пазагараць, памаляваць. Студэнтам падабаўся гэты маляўнічы куточак з раскіданымі паўсюль дошкамі. Колас падыходзіў да студэнтаў, цікавіўся малюнкамі і накідамі... У гэты ж час на Нарачы адпачываў Кандрат Крапіва, які быў, як вядома, у свой час настаўнікам малявання ў нашага знакамітага мастака Віталя Цвіркі. Апошні ўжо тады выкладаў жывапіс у нашым інстытуце. Я, вядома ж, не наважваўся навязвацца ў суразмоўцы такім знакамітым людзям, але імкнуўся прыслухоўвацца да іхніх размоваў падчас доўгіх вечароў ля вогнішча каля лынькоўскай дачы. Мне запомнілася адна думка, выказаная Коласам, прыблізна наступнага зместу: мастак павінен у звычайным убачыць незвычайнае. Тое ж самае возера Нарач кожны бачыць сваімі ўласнымі вачыма — не так, як іншыя...

У мой слоўнік трывала ўвайшлі такія Коласавы выразы, як, да прыкладу, "ножык-цыганчык" (маюцца на ўвазе ножыкі, што тут часцяком прадавалі цыганы на базарах), або "неяк жа будзе, бо яшчэ ні разу не было, каб ніяк не было", або "зрабіць па кілішку" (гэта значыць выпіць па чарачцы). Колас кожнай думцы ўмеў надаць элемент паэтычнасці.

Мне памятны выпадак, калі Колас пазіраваў мне, а ў мяне знянацку зламаўся аловак. Я пачаў вастрыць аловак сваім ножыкам, але той аказаўся тупым. Канстанцін Міхайлавіч заўважыў гэта і, дастаўшы з кішэні свой ножык-цыганчык, даў яго мне, адзначыўшы, што "кожны мужчына шляхетнага паходжання павінен насіць у кішэні востры ножык-сцізорык згодна з прыслоўем: "Пана пазнаюць па халявах і па сцізорыку ў кішэні". "Ну, а мы з табою, Сымоне, працягваў Колас, — сялянскага паходжання, але трэба імкнуцца стаць панамі".

Калі б можна было занатаваць усе размовы з Якубам Коласам, атрымалася б цікавая і вельмі павучальная кніжка. Сустракаючыся з Коласам, я заўсёды імкнуўся зрабіць замалёўкі. Некалькі разоў ён пагаджаўся пазіраваць, але адзначаў, што яму цяжка сядзець спакойна: "Чалавек павінен варушыцца, нібыта чарвячок..." Неяк Колас зазірнуў у мой альбом, каб пацікавіцца, што ж атрымалася: "Хе-хе, здорава, падобны, пазнаю сябе. Ну, што ж, калі я стану знакамітым паэтам, дык ты, Сымоне, разбагацееш, бо ў цябе набудуць гэтыя замалёўкі для якога-небудзь музея. Так што мне засталося толькі пастарацца і стаць знакамітым. Але, на вялікі жаль, гэта вельмі цяжкая справа. Знаходзіцца яна на дне чарнільніцы і трэба ўмець пераносіць яе пяром на паперу..."

Неяк Канстанцін Міхайлавіч сказаў мне, што хоць папулярнасць ягоная ў народзе расце і кошт ягоных твораў павялічваецца, але ўласная ацэнка зробленага зніжаецца. "Паэты — нешчаслівыя людзі, — дадаў ён, — бо яны часцей за ўсё незадаволеныя вынікамі сваёй працы. Магчыма, тут схаваная тая сіла, што прымушае зноў і зноў брацца за пяро...".

...Шмат успамінаў узнікае ў маёй душы, калі я, седзячы на лавачцы на плошчы, што носіць цяпер імя песняра, гляджу на маладых людзей, якія гуляюць тут, каля помніка. Цікава, што значыць для іх імя Коласа?..

**Сымон ГЕРУС,**
**мастак.**

# "КУПАЛА НЕ ЛЮБІЎ ВЫСТУПАЦЬ З ПРАМОВАМІ..."

Да 1932 года я ведаў Купалу толькі па яго творах, а калі ўвайшоў у сям'ю Галубка ў якасці яго зяця, то бачыў паэта часцей у Доме пісьменніка, што быў на рагу вуліц Савецкай і Камсамольскай. У тым годзе я скончыў мастацкі тэхнікум, а ў наступным быў прыняты ў сябры Саюза савецкіх мастакоў БССР.

Сувязі з пісьменнікамі былі тады больш блізкія, чым сёння, бо ўсе мастакі, жывапісцы і графікі, нават скульптары, праходзілі праз Белдзяржвыд, каб атрымаць заказ на афармленне кнігі — ад шрыфтавой вокладкі і да ілюстравання ўсёй кнігі. Другой арганізацыяй, якая магла аформіць заказ на любыя з відаў мастацтва (партрэты, афармленне клубаў, дэманстрацый, сельскагаспадарчых выставак) і іншую працу, быў прафсаюз РАБІС (работнікаў мастацтваў). Ніякіх мастацкіх майстэрняў, выканаўчых, а тым больш творчых, не было, гэтаксама як і Дома мастацтва ці выставачных залаў.

А вось Дом пісьменніка даў нам мажлівасць правесці з'езд мастакоў, які лічыўся першым, ды некаторыя выстаўкі асобных мастакоў, у тым ліку і выстаўку Уладзіслава Галубка.

Не магу дакладна ўспомніць, дзе я пачуў, як чытае свае вершы Янка Купала, — мабыць, у Доме пісьменніка. Ведаю, што Купала не вельмі любіў чытаць сам, відавочна, саромеўся, а можа, лічыў, што артыст зробіць лепш за яго. Хутчэй за ўсё і тое і другое разам. Мы ж ведаем, што Купала наогул не любіў выступаць з вершамі, а тым больш з прамовамі, бо навошта яму на людзях выкладаць свае думкі, якія ляцяць у паветра і там губляюцца? У той час было, праўда, наадварот: лічылася, што калі ты маеш пастаўлены голас і можаш выступаць на розныя тэмы, дык ты актывіст, цябе паважаюць, цябе выбіраюць, ты патрэбны чалавек. Купалу заўсёды запрашалі ў прэзідыумы розных сходаў і вечароў, дзе павінны сядзець усе знакамітыя людзі. Гэткая прадстаўнічасць надавала сходу салiднасць, і трапіць на яго лічылася заўсёды вялікім асабістым дасягненнем.

Часцяком чалавека, які ўпершыню слухаў вершы ў выкананні Купалы, спасцігала пэўнае расчараванне. Манатонны глухі голас, ды і не кожнае слова вымаўляецца так выразна, як трэба. Нават сэнс верша ўхапіць цяжка, застаецца разглядваць паэта: як стаіць, як трымае рукі, чаму не расстаецца са сваім кійком...

Ад жонкі, Люсі Галубок, я ведаў, што Купала любіў слухаць, як яна чытае ягоныя вершы, як выразна гучаць яе словы, як дакладна перадаюцца пачуцці. Сэнс верша ўзрастаў нават ад жэстаў яе рук. Галубок нездарма браў з сабою падлетка-дачку ў Менскі Белпедтэхнікум, каб яна чытала вершы Купалы перад студэнтамі пасля лекцыі пра тэатр, пра паэзію ў сцэнічным мастацтве.

Быў такі выпадак. Цётка Уладзя ўзяла да сябе Люсю на некалькі дзён, каб тая вывучыла вершы Купалы пад яе кіраўніцтвам. У гэтым дзіўнага нічога не было, бо Люся яшчэ не мела вопыту трымацца перад гледачамі ў тэатры. Рэпетыцыі праводзіліся ў доме ля Свіслачы, дзе тады жылі Луцэвічы. Цётка Уладзя, як настаўніца ў мінулыя гады, валодала сакрэтамі падыходу да дзяцей — ёй лёгка было працаваць з таленавітай дзяўчынкай. Можна сабе ўявіць, як хвалявалася Уладзіслава Францаўна за кулісамі ў вечар прэм'еры. Але ўсё абышлося добра, і з таго часу маленькая актрыса мела ўжо сваё амплуа. А вечар гэты быў прысвечаны Юзэфу Пілсудскаму, які сядзеў у ложы гарадскога тэатра, абапіраючыся на шаблю. Ён глядзеў на маленькую дзяўчынку і ўсміхаўся ў вусы. Мабыць, падабаліся яму і словы, і тая дзяўчынка, што так добра чытала купалаўскі прывітальны верш.

"Гэты вечар, — казала Люся Галубок, — запомніўся мне больш за ўсё, бо гэты вусаты дзядзька кінуў кветкі да маіх ног, а потым доўгі час усе пляскалі ў далоні стоячы, яны глядзелі на тую ложу, на Пілсудскага, на яго ад'ютантаў — выкшталцоных палякаў".




Я.Ціхановіч. "Янка Купала". Афорт.

**Яўген ЦІХАНОВІЧ,**
**мастак.**

СМЕХУ ВАРТА!

# АЎЦЮКОЎСКІЯ ЖАРТЫ, або ФЕСТЫВАЛЬ, ДЗЕ ПЛАЧУЦЬ ТОЛЬКІ АД СМЕХУ



Помнік Каласку і Калінцы.

Даўно вядома, што ў Беларусі ўмеюць жартаваць. І таму пацверджаннем Другі ўсебеларускі фестываль народнага гумару, што адбыўся ў Калінкавіцкім раёне. На гэты раз "гумарылі" не толькі ў вёсках Малыя і Вялікія Аўцюкі, але і ў навакольных — на ўсялякіх пляцоўках і сцэнах.

Распачалося свята ўрачыстым адкрыццём помніка Каласку і Калінцы — яны сімвалізуюць мясцовы фальклор, пра іх складзены шматлікія легенды. На жаль, выява слынных герояў Аўцюкоўшчыны пакуль зроблена з фанернага матэрыялу. Але ёсць надзея, што будучым годам помнік будзе перароблены. Госці з Украіны, напрыклад, прапанавалі выразаць яго з сала. Пісьменнікі, паэты, фальклярысты, народныя гумарысты падарылі сабраным не адну жменю анекдотаў, баек, казак, прамоў, прыколаў. Так, Уладзімір Ліпскі, які да таго ж з'яўляецца ганаровым гумарыстам Аўцюкоўшчыны, выйшаў да слухачоў з даўжэзным скруткам і зачытаў арыгінальныя думкі пра надзвычайнасць феномена аўцюка ў межах Аўцюкоўскай дзяржавы гумару. У існаванні апошняй я пераканаўся вельмі хутка, калі патрапіў на мытню, дзе два здаравенныя дзецюкі з драўлянымі аўтаматамі запатрабавалі прад'явіць анекдот або выкласці дзяржпошліну ў памеры 5 долараў. Заплаціўшы жартам, я, у сваю чаргу, атрымаў на левую руку вялізную нязмыўную чорную пячатку. Пралезці нелегальна праз мытню хацела шмат людзей, бо на вуліцах можна было частавацца смажанай бульбай, салам, хатнімі кілбасамі, мядком, грыбкамі, агуркамі і... выпіць добрую чарку аўцюкоўскай гарэлкі. І кожны гаспадар кліча, зазывае да свайго стала. А на агароджы ля кожнай хаты розныя вышываныя посцілкі, пакрывалы, ручнікі, бо ўсе тут — удзельнікі конкурсу "Чыя сядзіба лепшая". Шчырасць, гасціннасць былі паўсюдна, і калі шукаць пераможцаў, дык давядзецца адзначаць ўсіх.



Як не пачаставацца.

Па-свойму непаўторнымі аказаліся наступныя фестывальныя дні, якія разгарнуліся на дзвюх пляцоўках ля дубоў (пляцы Здубавецця № 1 і № 2). Тут ладзілі конкурсы баек, анекдотаў, прыпевак, дзе народныя жартаўнікі і фальклорныя гурты паказалі сваё майстэрства "гумарыць". Не было на свяце афіцыёзнасці, нават намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Валерый Гедройц вельмі ўдала перакінуўся з гледачамі паркай экстравагантных жартаў. Між іншым, на пачатку святочнай праграмы Валерыя Гедройца пад гучныя воплескі неслі да сцэны на вялізным троне — як аднаго з галоўных віноўнікаў фестывалю.



Бубны і гармонік гучаць па-аўцюкоўску.

Якія толькі конкурсы не праводзіліся!.. Так, на вяроўцы, прывязанай да грабляў, вісела каўбаса, і ўсе жадаючыя маглі пазмагацца за гэты прадукт. Праўда, граблі трымалі дзве жанчыны, якія ў патрэбны момант падымалі каўбасу вельмі высока. А чаго вартая "хібарка непрыстойных паказак"?!.

Падчас фестывалю быў наладжаны неблагі кірмаш, дзе можна было спатоліць душэўны і страўнікавы голад, — бананы, марозіва, ківі, булкі, віно, піва, гліняны посуд, вышыванкі, усялякія драўляныя ўпрыгажэнні і шмат-шмат што іншае. Усе наведнікі былі задаволены, здавалася, няма цяпер няшчаснага чалавека на аўцюкоўскай зямлі. Паўсюль песні, гармонікі.

Многія тэатралізаваныя выступленні праходзілі і па-за межамі вызначаных для фестывалю пляцовак. Да прыкладу, некалькі чалавек у белых халатах хадзілі сярод людзей і прапаноўвалі вылечыць душэўны і зубны боль. Так і мяне крыху падлячылі — цяпер нічога не баліць.

Нават калі фестываль скончыўся, чамусьці здавалася, што ён толькі пачаўся, бо добры настрой панаваў паўсюль. Агромністага меха дыпломаў і воза падарункаў хапіла на ўсіх удзельнікаў. Галоўны прыз — дваццаціпрохпудовы бык — дастаўся Калінкавіцкаму Дому культуры. Сярод многіх быў адзначаны фальклорны ансамбль Беларускага універсітэта культуры "Баламуты" — яны атрымалі магнітафон. Без падарункаў не засталіся гарадскія і раённыя газеты, іх гумарыстычныя старонкі падчас фестывалю дэманстраваліся на спецыяльных стэндах. Мяркуючы па змесце старонак, умеюць весяліцца "Івацэвіцкі веснік", "Іўеўскі край", "Веснік Магілёва", "Чырвоны кастрычнік", "Добрушскі край", "Астравецкая праўда", "Лунінецкія навіны" і многія іншыя.

Пра незвычайнасць вёсак Вялікія і Малыя Аўцюкі можна расказваць шмат, але лепш паслухаць некалькі аўцюкоўскіх анекдотаў.

* * *

Сядзіць аўцюк за сталом, моўчкі на жонку паглядае. Доўга глядзіць, думае сваю думу.

— Чаго ты ўтаропіўся? — ласкава так пытае жонка.

— Ведаеш, жонка, калі б ты была чужая, табе б цаны не было.

* * *

У Малых Аўцюках будуюць школу. Аўцюк гуляе побач. Раптам зверху на яго падае цагліна.

— О, чорт! Калі б былі мазгі, павыплывалі б.

* * *

Аўцюк хваліцца:

— Зімою я закусваю толькі баранінай.

— Як гэта вам удаецца?

— А от, каласок, вып'ю ды цярну па губах рукавом кажуха...

* * *

Ходзіць аўцюк па вёсцы, запрашае на вяселле. Усіх папярэджвае:

— Нічога не бярыце з сабой. Толькі бутэльку гарэлкі і сто рублёў...

* * *

Паехаў аўцюк у госці да дачкі — яна атрымала гарадскую кватэру. Усім хваліцца:

— Можа, і перазімую там, у цёплай хаце.

Праз суткі вяртаецца дамоў. У яго пытаюцца:

— Чаго так мала пагасцяваў?

— Ай, няма дзе да ветру схадзіць.

— Як?.. А прыбіральня ў кватэры?..

— Не прывык, калінка, сярод хаты паскудзіць...

* * *

А яшчэ ёсць у Малых і Вялікіх Аўцюках свае непаўторныя словы — свой дыялект:

грэйс — дрэнны чалавек,
заедно — разам,
калідка — бохан,
мост — падлога,
пагной — зямля за агародамі,
тэйка — сяброўка,
япо — крама,
паляй бо — паглядзі,
рыкша — чалавек, які псуе паветра,
бында — сукенка.

**Гасцявалі ў Аўцюках Зміцер ВОЛКАЎ і Яўген ПЯСЕЦКІ (фота)**



Галоўны прыз можа і рыкаць.



На паперы ў Ліпскага — "ліпа".

КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
Выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**



Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК), вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: (017) 276-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 3450.

Падпісана ў свет 24.07.97. у 16.00.
Замова 4262.

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.
Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.